

*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

Address: P.O. Box 3225 Farmingdale, NY 11735

BIELARUS / Belarusan newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n Inc.

№ 484 Травень 2003 г. Год выданьня 53


# ЗОРА КІПЕЛЬ

## (1.VII.1927 - 14.IV.2003)



**Зора Кіпель**, дзявочае прозьвішча Савёнак, нарадзілася ў Менску. Сям'я была сьведамая беларуская. Бацькі Зоры былі поўнасьцю ў беларускім руху: маці выкладала ў школах, а бацька працаваў журналістам у тагачаснай, нацыянальнага кірунку, газэце "Савецкая Беларусь". Кола знаёмых і сяброў сям'і ўлучала Пашковічаў, Лёсікаў, Коласаў ды асабліва блізкія адносіны былі зь сям'ёю Янкі Купалы. З маленства як Зора, гэтак і ейны брат Лёдзік, нар. 1922 г., былі цалкам у беларускай атмасфэры. Як Зора прыпамінала, "яшчэ сядзелі на гаршках, а разглядалі ўжо беларускія кніжкі".

У 1933-м годзе бацьку Зоры арыштоўваюць па справе Беларускага Нацыянальнага Цэнтру і асуджаюць на 6 гадоў высылкі ў Сібір. (Дарэчы, у гэтым працэсе БНЦ Лявон Савёнак разам зь некаторымі іншымі зьняволенымі, абвесьціў сябе грамадзянамі БНР, і як такія выйшлі на высылку.) Маці Зоры, Апалёніі Савёнак, зволілі з працы й прапанавалі выехаць зь Менску. Быў выбраны горад Крычаў, дзе сям'я пражыла каля пяці гадоў. Крычаў, стары беларускі горад з паўсюднымі сьлядамі старасьветчыны, зрабіў на Зору вялікае ўражаньне, якое засталося на ўсё жыцьцё. (Усьлед за Менскам, калі стала магчымым, Зора наведала Крычаў некалькі разоў ды прысьвяціла эмацыянальныя старонкі сваіх успамінаў.)

Незадоўга перад вайною бацька Зоры быў вызвалены, і сям'я паступова парабралася ў Менск, хоць бацьку давялося прапісвацца ў Каралявішчавічах каля Менску.

22-га чэрвеня 1941-га году для Зоры, як і для мільёнаў ейнага пакаленьня, стаўся незабыўным днём - пачалася вайна. Літаральна праз пару дзён Менск быў у полымі. Каб не згарэць, людзі ўцякалі, "ішлі у бежанства". Пайшла разам зь сябрамі й сям'я Зоры. Яна ўспамінала: "Куды ішлі-беглі ніхто ня ведаў, абы ісьці!". Ад Дукаркі, аднак, Зора павярнулася ў Менск, дзе і пражыла гады акупацыі: вучылася ў настаўніцкай сэмінарыі, каб ня быць вывезенай у Нямеччыну, працавала ў рэдакцыях "Беларускай газэты" й "Голасу вёскі" - падлічвала радкі на ганарары.

Улетку 1944-га году Зора разам з бацькамі (брат ад 1941-га году "згубіўся" і быў на другім баку фронту) выяжджае на эміграцыю. Працавала спачатку ў Сылезіі, потым у цэнтры Нямеччыны.

Па вайне, у 1945-м годзе, Зора ў горадзе Рэгенсбургу ад першага-ж дня стварэньня беларускага селішча, гімназіі, у якой Зора разам з паўтузінам сяброў былі-сталіся першымі вучнямі. Перыяд навучаньня ў беларускай гімназіі, пазьней імя Янкі Купалы, ад 1945-га да 1948-га гадоў (Зора Савёнак закончыла гімназію ў 1948-м годзе, трэйці выпуск) быў перыядам станаўленьня абасначанае беларускае базы, перыядам фармаваньня беларускага інтэлекту. Зора асабліва цаніла той перыяд і ўсё жыцьцё выказвала захапленьне тагачаснымі настаўнікамі, якія гэтулькі далі беларускай моладзі ў халодныя, беспрасьветныя паваенныя гады. Апроч навукі ў гімназіі Зора вельмі энэргічна працавала ў грамадзкай дзялянцы: яна была актыўная ў скаўтынгу, была ініцыятарам стварэньня Першага Дзявочага Сьцягу ЗБСЧ у амэрыканскай зоне акупацыі, езьдзіла з гурткамі мастацкай самадзейнасьці па беларускіх лягерох, арганізавала беларускія бібліятэчкі ў Міхэльсдорфе і Остэргофэне.

Далей на жыцьцёвым шляху Зоры быў перыяд здабываньня вышэйшае асьветы: 1949-1954 гады. Зора Савёнак скончыла Лювэнскі ўнівэрсытэт, факультэт хіміі, зрабіўшы дыплёмную працу ў галіне аналітычнае хіміі - спэктральны аналіз некаторых жалезістых мінэралаў з Бэльгійскага Конга. Зноўткі, і ўнівэрсытэцкі перыяд жыцьця Зоры быў густа пераплецены, насычаны, грамадзкаю дзейнасьцю. Адбываліся вельмі частыя паездкі да работнікаў "на правінцыю" з рознымі культурнымі праграмамі. Па той жа праграме працы ў Саюзе Беларусаў Бэльгіі дапамагала ўкладаць лекцыі беларускай мовы дзецям работнікаў, ладна часу займаў кальпартаж беларускай прэсы, выступы з студэнцкім хорам, калі былі патрэбныя танцы, былі сталай, цяглай зьявай. У дадатак Зора часта ладзіла сяброўскія вечарыны для студэнтак, дзе яна пражывала, каб нешта расказаць пра Беларусь.

Ад сьнежня 1955-га году Зора жыла ў Злучаных Штатах Амэрыкі. У Амэрыцы была створаная новая сям'я: Зора выйшла замуж за сябру школьных гадоў у Менску, сябру пабыту ў Нямеччыне і студыяў у Бэльгіі, Вітаўта Кіпеля. Хоць сямейныя абавязкі выходзяць на першы плян жыцьцёвых патрэбаў, грамадзкая праца таксама не адыходзіць ад сямейнага жыцьця, штодзёншчыны. Працуючы яшчэ на пачатку жыцьця ў ЗША хімікам (Зора апрацоўвала матэрыялы для даведніка "Крысталяграфічныя дадзеныя" ў лябараторыі праф. Дж. Данэя ў г. Балтыморы, за што ёй была вынесеная асаблівая падзяка ў гэнай працы), у тым самым часе Зора друкавала для сп. Янкі Станкевіча на машынцы "Біблію", укладала картатэку "Беларусіка ў ангельскай мове" ды брала ўдзел у розных беларускіх імпрэзах.

Каб быць бліжэй да кнігі, грамадзкага жыцьця, быць у "беларусазнаўстве", Зора, усьлед за мужам, перамяняе прафэсыю, з хіміі пераходзіць у інфармацыю, бібліятэказнаўства. Каб "стаяць на нагах" у прафэсыі, Зора паступае на бібліятэчны факультэт Ратгэрскага ўнівэрсытэту, які заканчвае ў 1966-м годзе з тытулам магістра бібліятэказнаўства і інфармацыі. Ад таго 1966-га году ўся навукова-грамадзкая дзейнасьць Зоры зьвязаная зь Нью Ёрскаю Публічнаю Бібліятэкаю, у якой Зора працавала на розных пасадах, і якую вельмі любіла. Спачатку Зора працавала каталёгерам навуковае літаратуры, затым паступова пераходзіла на славістыку і ў славяна-балцкі аддзел, у якім Зора была заступнікам загадчыка.

Зора Кіпель была адным з піянэраў, і ў Нью Ёрскай Публічнай Бібліятэцы, і ў ЗША наагул, пераходу-пераводу каталягізацыі на кампутарную сыстэму. Паступова сярод амэрыканскіх бібліятэкараў славянскае спэцыялізацыі Зора, а хучэй ейная кодавая адзнака-подпіс "ЗЗК" (Зора-Зоя-Кіпель), становіцца аўтарытэтнай і ведамай у ка-

*Працяг на бачыне 2*

# ПАМЯЦІ ЗОРЫ

Вестка аб неспадзяванай сьмерці сьветлай памяці Зоры Кіпель балюча спаласала маё сэрца. Спадарства Зора й Вітаўт Кіпелі бывалі актыўнымі ўдзельнікамі падзеяў, арганізаваных беларускімі нацыянальнымі арганізацыямі ў Канадзе. Памятаем Зору Кіпель зь яе верным спадарожнікам-мужам Вітаўтам на Сустрэчах Беларусаў Паўночнае Амэрыкі ў Таронта, на канфэрэнцыях Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Канадзе, на канфэрэнцыях прадстаўнікоў беларускага грамадзтва з усяе Канады, ладжаных Каардынацыйным Камітэтам Беларусаў Канады ў 1989-м і 1990-м гадох у Таронта. Памятаем спадарства Зору і Вітаўта Кіпеляў на 8-й Сустрэчы БПА, у часе якой, 5-га верасьня 1988-га году, быў урачыста асьвечаны ў прошчы пакутнікаў Мідленд Беларускі памятны Крыж, якім адзначалі 1000-годзьдзе хрысьціянства ў Беларусі. Памятаем сьціплы, ціхі й заўсёды элегантны, сьветлы вобраз Зоры Кіпель 1-га чэрвеня 1996-га году на 8-м паломніцтве да Беларускага Крыжа, на асьвячэньні Помніка памяці ахвяраў камуністычнага тэрору ў Беларусі. Памятаем Зору Кіпель, як кампэтэнтнага, аўтарытэтнага рэдактара газэты "Беларус", у якую мы, беларусы Канады, дасылалі свае допісы.

Кажуць, што людзей, прыяцеляў найлепш пазнаюць у горы, няшчасьці, бядзе. Так і мне давялося пазнаць характар сьветлай памяці Зоры Кіпель і яе мужа на паховінах майго мужа Вінцэнта ў Нью Джэрзі, ЗША. Пасьля ўсіх пахавальных падзеяў і грамадзкай памінальнай бяседы мяне, асірочаную, прыгнечаную да самое зямлі, узялі пад сваю спагадлівую і чулую апеку Зора і Вітаўт Кіпель. Завезьлі да сябе дамоў. З намі быў тады й др. Язэп Сажыч, Старшыня Рады БНР, што прыехаў з Дэтройту на паховіны свайго папярэдніка. Зора прыгатавала ўрачыстую памінальную вячэру. Для мяне яна была памятная і тым, што ў час яе др. Кіпель сказаў: "Цяпер, Раіса, Вам трэба пісаць..." Я ведала, што мне трэба пісаць... Для мяне была важнаю ліцэнзія, якую праз тое выказваньне дало мне беларускае грамадзтва на напісаньне кнігі пра адыйшоўшага ў вечнасьць былога Старшыні Рады БНР. Нараніцу Зора і Вітаўт Кіпелі завезьлі мяне на лётнішча, скуль я, узмоцненая духова людзкою спагадлівасьцю і прыхільнасьцю, накіравалася назад у Канаду.

Вось тыя часы й пасьля яшчэ доўгімі гадамі Зора і Вітаў Кіпелі былі для мяне духовым, маральным апірышчам, астояй, радай і парадай. Таму цяпер, калі пішу гэтыя радкі, вочы заліваюць мне сьлёзы.

Няма Зоры!... Божа, прымі сьветлую душу яе перад сваё Аблічча, а асірочанаму д-ру Кіпелю пашлі на падтрымку ў горы такіх анёлаў-апякуноў, якімі былі для мяне ў маім горы яны самыя.

Людзі кажуць, шчасьлівыя тыя, што паміраюць у часе Вялікага Тыдня. Іх Бог прымае да Сябе.

Дарагая Зора, сьветлая памяць пра Вас застанецца з намі, тымі хто знаў Вас, на векі.

*Раіса ЖУК-ГРЫШКЕВІЧ*

# ПАХОВІНЫ СЬВ. ПАМ. ЗОРЫ КІПЕЛЬ

Паховіны сьв. пам. Зоры Кіпель адбыліся ў пятніцу 18-га красавіка. У царкве Жыровіцкай Маці Божай у Гайленд-Парку настаяцель царквы а. Вячаслаў адслужыў адпяваньне. На разьвітаньне зь нябожчыцаю прыбыло шмат сяброў і супрацоўнікаў. Людна была таксама напярэдадні паховінаў паніхіда ў пахавальным доме Малішэўскага ў Саўт-Рывэры. Дваццаць пяць вянкоў кветак сьведчылі пра пашану да сьв. пам. Зоры ды пра глыбокае пачуцьцё страты, якую перажываюць сям'я і прыяцелі нябожчыцы.

Цела памерлай спачыла на беларускім праваслаўным могільніку ў Іст-Брансўіку. Над труною, пакрытаю бел-чырвонабелым сьцягам, разьвітальнае словы сказаў старшыня Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня сп. Антон Шукелойць. Акордам да ягоных словаў прагучаў жалобны марш "Сьпі пад курганам герояў".

На памінальнай трапезе ў залі Беларуска-Амэрыканскага Цэнтру ў Саўт-Рывэры ўспамінамі пра сьв. пам. Зору Кіпель і ейнае плённае жыцьцё падзяліліся сябры сям'і Кіпеляў Янка Запруднік, Івонка Сурвілла, Ала Рамана, Антон Шукелойць, Васіль Шчэцька й Лявон Юрэвіч.

Вітаўт Кіпель падзякаваў усім за прысутнасьць і цёплыя словы пра нябожчыцу.

* * *

Прафэсар Курт Ўулгайзэр, старшыня Паўночна-Амэрыканскага Таварыства Вывучэньня Беларусі, у сваім спачуваньні Вітаўту Кіпелю й сям'і выказаў прапанову заснаваць грашовую прэмію імя Зоры Кіпель. Мэта прэміі - падтрыманьне беларусаведных дасьледаваньняў. Прапанова была з удзячнасьцю прынятая сям'ёю Кіпеляў. Пра рэалізацыю гэтага праекту будзе паведамлена ў свой час.

*Янка ЗАПРУДНІК*



*Заканчэньне. Пачатак на бач. 1*

талягаваньні й клясыфікацыі беларускае кнігі, беларускага друку. Маючы неабмежаваны доступ да друкаванае літаратуры й бачачы масу беларускага матэрыялу, у Зоры зьяўляецца думка даць англамоўнаму сьвету нешта з асаблівымі адзнакамі беларускасьці. Думка засяроджваецца на перакладзе Трышчана ў беларускай мове, чытанага ў Беларусі ў 16-18 стагодзьдзях, ведамага на Захадзе, але ў Беларусі зь іншымі адзнакамі. З мэтаю глыбейшага аналізу старое беларускае літаратуры, і Трышчана асабліва, Зора Кіпель у 1982-м годзе паступае на факультэт параўнаўчых літаратураў Ратгэрскага ўнівэрсытэту. Гэты факультэт яна заканчвае ў 1986-м годзе з тэзаю аб Трышчане ды выдрукаванай кнігай-перакладам у ангельскую мову "Беларускі Трышчан". Хутка і "Беларускі Трышчан", і аналіз беларускае літаратуры, беларускага чытача 16-18-га стагодзьдзяў сталіся спадарожнікамі ўнівэрсытэцкіх падручнікаў літаратурных факультэтаў ды часткі гэтых працаў увайшлі ў літаратурныя энцыклепэдыі. Лейт-матыў Зорыных дасьледаваньняў Беларускага Трышчану быў такі: Трышчан быў толькі ў нас, у Беларусі. Трышчана чыталі. Было зацікаўленьне. Была безьліч іншых перакладаў. Нашая культурная спадчына ўнікальная - ні Расея, ні Ўкраіна гэткага багацьця ў той час ня мелі.

Дыяпазон дасьледаваньняў беларусікі ў Зоры Кіпель не абмяжоўваўся толькі літаратураю. Зора дасьледавала беларускую спадчыну ў Амэрыцы, аналізавала сучасныя кнігазборы, апрацавала першы даведнік нацыянальнасьцяў штату Нью Джэрзі, закаталягавала калекцыю рэдкіх і старых кірылічных друкаў Нью Ёрскай Публічнай Бібліятэкі, дасылала матэрыялы пра Беларусь у розныя энцыкляпэдыі. Будучы, як казала Зора, "дзяржаўнікам" ад дзяцінства, яна выдрукавала цімала працаў-бібліяграфіяў аб Беларускай Дзяржаўнасьці, БНР, нацыяналізме. Як сакратар Галоўнае Ўправы БАЗА, Зора Кіпель выдрукавала некалькі лістоў-мэмарандумаў ў Кангрэсавах Запісах 1978-1982 гадох. Друкаваліся ейныя артыкулы ў беларускім, ангельскім, францускім, расейскім і гішпанскім друку і мовах. Зора Кіпель выдрукавала на беларускія тэмы панад 200 артыкулаў. Яна была сябрам шматлікіх навуковых таварыстваў і клюбаў, але асабліва яе парадавала прыняцьцё ў ганаровае сяброўства пісьменьніцкае арганізацыі Беларусі. Неабходна падкрэсьліць, што будучы сябрам Амэрыканскага Таварыства Славянаведы, Зора Кіпель яшчэ ў пачатку 1970-х гадоў дамаглася, каб "Беларусь" адзначалася і ў рэклямах, і на блянках гэтае амэрыканскае асацыяцыі.

Зора Кіпель брала актыўны ўдзел у міжнародных канфэрэнцыях, сымпозыюмах, чытаючы там заўсёды даклады на беларускія тэмы. Ад міжнародных канфэрэнцыяў дарога прывяла і ў Беларусь. Уваходзячы, як сябра БІНіМу, у арганізацыйны камітэт канфэрэнцыі "Рым-І" (1990), Зора, як і ўсе сябры дэлегацыі БІНіМу на канфэрэнцыі ў Рыме, сустрэлася з калегамі зь Беларусі - пачалося супрацоўніцтва і ў Міжнароднай Асацыяцыі Беларусістаў і са Скандынаўскім Цэнтрам у Менску. Пачынаючы ад 1991-га году Зора наведвала Беларусь штогоду, а былі гады, што ў Беларусі яна бывала і па два-тры разы. У тым самым дзесяцігодзьдзі Зора была і рэдактарам газэты "Беларус" ды інтэнсыўна разам з мужам рыхтавала да друку працу-бібліяграфію "Беларускі друк на Захадзе ад 1800-га году".

У Беларусі ейным улюбёным месцам побыту заўсёды бывала Нацыянальная Бібліятэка, якую Зора ўпершыню наведала яшчэ перад вайною. Бясспрэчна, Зора Кіпель належала да тае групы адданых беларускіх патрыётаў-інтэлектуалаў, якія і па-за Беларусьсю жылі й працавалі для Беларусі, і Беларусь ні гэтае адданасьці, ні Зоры Кіпель не забудзе.

*Паводле матэрыялаў друку, успамінаў, Радыё Свабода ды кнігі Яна Максімюка "Беларуская гімназія імя Янкі Купалы"*

# НА РАЗЬВІТАНЬНЕ З ЗОРАЮ КІПЕЛЬ

## Прамова на паховінах 18 красавіка 2003 году

Сьмерць зачыніла вочы Зоры й адчыніла вочы нам - на Зору. Сьвет так уладжаны, што мы гадамі сустракаемся адзін з адным, дружым, супрацоўнічаем, але шмат чаго ня ведаем адзін пра аднаго. Дзіўна! Чалавек павінен назаўсёды адыйсьці ад нас, каб мы маглі яго лепш пабачыць, глыбей пазнаць, больш поўна ацаніць. Гэтак вось і мы цяпер: адкрываем для сябе Зору тады, калі яна ўжо ня з намі.

Вестка пра сьмерць сьв. пам. Зоры Кіпель маланкаю пранеслася па сьвеце, адгукнулася жалобным рэхам на Бацькаўшчыне і ў дыяспары, а таксама сярод амэрыканскіх сяброў нябожчыцы. Вітаўт і сям'я атрымалі дзесяткі самых шчырых сардэчных спачуваньняў, зь якіх паўстае перад намі Зорын сьветлы вобраз.

Вестку пра адыход з жыцьця Зоры падала 15-га красавіка беларуская служба радыё "Свабода", а таксама радыё "Рацыя" на сваёй інтэрнэтаўскай старонцы. У гутарцы карэспандэнта радыё "Свабода" зь пісьменьнікамі народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін назваў Зору "шчырай, нястомнай працаўніцай на ніве беларушчыны, на ніве адраджэньня Беларусі" і сказаў, што сьмерць ейная - "вялікая страта для Беларусі". Паэт Генадзь Бураўкін, былы прадстаўнік Беларусі пры ААН у Нью-Ёрку, падзяліўся ўспамінам пра нябожчыцу. "Калі я сустракаўся з Зораю, - сказаў Бураўкін, - заўсёды адчуваў, што ўсімі нітачкамі, якія зьвязвалі яе з роднай Беларусьсю, яна вельмі даражыла. ... І тое, што яе ня стала, гэта страта ня толькі для эміграцыі, гэта страта для Беларусі". У той-жа радыёперадачы пісьменьнік Уладзімер Арлоў, блізкі супрацоўнік Вітаўта й Зоры Кіпеляў, сказаў: "Зора Кіпель з таго шэрагу беларускіх жанчын, да якога належаць Натальля Арсеньнева й Ларыса Геніюш. Сваім талентам, розумам і душою Зора Кіпель была аддадзеная Беларусі. ... Ад пачатку 90-х гадоў Зора штогод прыяжджала ў Беларусь. Цяпер сюды будзе вяртацца яе душа".

Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" ў спачуваньні Вітаўту напісала пра Зору: "Яе творчая і грамадзкая дзейнасьць на карысьць Бацькаўшчыны была надзвычай шматгранная і вельмі плённая. Імя Зоры Кіпель будзе ўпісана вялікім літарамі ў гісторыю культуры Беларусі".

Ад Фонду імя братоў Луцкевічаў, цэнтар якога знаходзіцца ў Менску, кіраўнікі Фонду Анатоль Гурыновіч і Анатоль Сідарэвіч назвалі сьмерць Зоры "яшчэ адным ударам па Беларушчыне, па нашай Радзіме", але разам з тым зазначылі, што памяць па Зоры "будзе сьветлай і доўгай".

Шчырыя спачуваньні Вітаўту Кіпелю й сям'і выказалі сябры менскага выдавецтва "Беларускі кнігазбор", зь якім, разам з мужам, Зора цесна супрацоўнічала.

У пісьмовым спачуваньні ад родных Янкі Купалы й супрацоўніц купалаўскага літаратурнага музэю ў Менску Ядвігі Раманоўскай і Жанны Дапкюнас, між іншага, сказана: "А найбольш нам помніцца шчырая і адкрытая ўсьмешка Зоры. Такім яна была і чалавекам: добрым, шчодрым і адкрытым, шчырым, іскрыстым, як сапраўдная зорка нябесная. Такой мы яе і будзем памятаць. Яна заўсёды будзе з намі".

У спачуваньні ад Таварыства Беларускай Мовы адзначанае сярод іншых дасягненьняў Зоры й сям'і Кіпеляў і такое: "Удалечы ад Радзімы Зора Кіпель выгадавала дваіх дзяцей: дачку Алесю і сына Юрку - адданых беларускіх патрыётаў".

Добра абагульнена жыцьцё нябожчыцы ў наступным спачуваньні сям'і й блізкім: "Нацыянальная бібліятэка Беларусі глыбока смуткуе з прычыны заўчаснай сьмерці выдатнай дачкі беларускага народу, дзеяча нашай дыяспары ў Амэрыцы, кандыдата бібіятэказнаўства і літаратуразнаўства, складальніцы "Бібліяграфіі беларускага друку на Захадзе", аўтара прац па старажытнай беларускай літаратуры спадарыні Зоры Кіпель. Яна шмат зрабіла ў галіне беларускай бібліяграфіі й літаратуразнаўства, пакінула свой яскравы след у дзейнасьці Славянскага аддзелу Нью-Ёркскай Публічнай Бібліятэкі, працуючы на славу й гонар Беларусі. Усім сваім жыцьцём і плённай дзейнасьцю спадарыня Зора Кіпель заслужыла права на нашу глыбокую павагу і ўдзячную памяць".

Зянон Пазьняк напісаў з Варшавы ў сваім спачуваньні Вітаўту: "Вы і спадарыня Зора столькі добрага зрабілі для Беларусі. Кнігі, выдадзеныя ад Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ёсьць залаты фонд беларускай літаратуры на эміграцыі. Гэта высока ацэнена ўсімі. Няхай спачне душа Зоры".

У падобным духу выказаліся з Прагі Сяргей і Галіна Навумчыкі: "Мы заўсёды будзем памятаць спадарыню Зору, а ейныя заслугі ў справе беларушчыны з часам будуць належным чынам ацэненыя ў дэмакратычнай Беларусі".

Спадарства Навумчыкаў перадало Вітаўту таксама спачуваньні ад Васіля Быкава, які цяпер таксама жыве ў Празе.

Выказалі свой смутак з прычыны сьмерці Зоры Кіпель беларуская амбасада ў Вашынгтоне ў асобе прысутнага на пахаваньні Валеры Кавалеўскага, гісторык Генадзь Сагановіч, які знаходзіцца цяпер у Нямеччыне, сябры й знаёмыя з Бруксэлю, Лёндану, Прагі, Менску, Варшавы, Беластоку, Нью-Ёрку, Чыкага, Грэнд-Рапідсу, Лёс-Анджэлесу, Пасадэны ды іншых гарадоў.

Сьмерць забрала ад нас Зору, але дала нам паглыбленую веду пра яе. Гэта ўзнагарода нам за наш боль, за сьлёзы, за цяжкое пачуцьцё страты. Сьмерць Зоры зьбядніла нас, але й узбагаціла: нас стала менш, ды мы ўзмацніліся духам. Бо ведаем, што Зора Кіпель сваім жыцьцём і самаахвярнаю працаю пабольшыла шанцы беларушчыны выжыць і замацавацца, каб і нашая з вамі праца на той-жа ніве не была дарэмнаю, а дала канчальны плён - вольную Беларусь.

Зору Бог надзяліў добрым мужам, добрымі дзецьмі, добрай нявесткай, добрымі ўнукамі. Апошнія Зорыны дні былі пазначаныя цёплай сямейнай атмасфэрай, руплівай мэдычнай увагай і камфортам. Адыйшла нябожчыца з гэтага сьвету спакойна, бяз болю. На такую сьмерць Зора заслужыла сваім шчодрым і плённым жыцьцём. Вечная ёй памяць.

*Янка ЗАПРУДНІК*

# КАНФЭРЭНЦЫЯ Ў КЛІЎЛЕНДЗЕ

У Беларуска-Амэрыканскім Грамадзкім Цэнтры "Полацак" 4-га траўня адбылася канфэрэнцыя "Аднаўленьне беларускай дэмакратыі", арганізаваная аддзелам БАЗА ў Кліўлендзе (найбольш папрацавалі на гэта сп.сп. Пол Васілеўскі, Васіль Мельяновіч, Сяргей Раманюк). Удзел у ёй узялі прадстаўнікі беларускай дыяспары зь Нью Ёрку, Канады, Чэхіі. Напачатку з уступным словам выступіў сп. Пол Васілеўскі, старшыня аддзелу БАЗА ў Кліўлендзе, які вёў канфэрэнцыю. Ён адзначыў патрэбу ў каардынацыі дзейнасьці беларускай грамады Амэрыкі й сьвету ў справе падтрымкі апазыцыйных нацыянальных партыяў і спрыяньня прыняцьцю Акту аб Дэмакратыі ў Беларусі-2003. Сп. Васілеўскі адзначыў, што да су-спонсараў Акту ў Сэнаце ЗША далучыўся сэнатар ад Агаё Джордж Войновіч, які меўся прысутнічаць на канфэрэнцыі, але пільныя справы змусілі яго зьмяніць свае пляны. Зь ім у бліжэйшы час будзе арганізаваная сустрэча. Сп. Васілеўскі падкрэсьліў, што сэнатару Войнавічу ня трэба тлумачыць, што такое Расея ды ейныя шавіністычныя амбіцыі, ён добра арыентуецца ва ўсходнеэўрапейскіх справах.

Амэрыка, як ведаем, займае прынцыповую пазыцыю ў дачыненьнях з рэжымам Лукашэнкі, тады як Эўразьвязу гэтай прынцыповасьці бракуе, апошні прыклад - зьняцьце абмежаваньняў на падарожжа для функцыянэраў рэжыму, хоць рэжым ня выканаў пастаўленых умоваў. Сп. Васілеўскі заклікаў кантактаваць кангрэсмэнаў Куцініча, Латурэта і Браўна, каб яны зрабіліся су-спонсарамі Акту аб Дэмакратыі ў Беларусі. Наконт самога Акту сп. Васілеўскі заявіў, што зьяўляючыся амэрыканскімі падаткаплацельшчыкамі, беларусы маюць права выказваць сваю апінію наконт таго, на якія мэты мусяць пайсьці сродкі, якія прадугледжвае Акт.

Затым вядучы перадаў слова Старшыні Рады БНР спн. Івонцы Сурвілла. Напачатку свайго выступу яна адзначыла, што БНР ёсьць ня толькі сакральны сымбаль, але і палітычная рэальнасьць. І лёгіка палітычнай дзейнасьці вымагае сваёй пазыцыі. Часам ад нашых людзей, асабліва тых, што прыяжджаюць з Беларусі, можна пачуць "Я ў палітыку не мяшаюся". Але і такая заява - гэта палітыка, бо значыць, што гэтая асоба дае анты-беларускім сілам дазвол рабіць усё, што яны захочуць. Беларусь сёньня ў крытычнай сытуацыі - Масква цягне ў сваю імпэрыю, і трэба зрабіць усё, каб не дапусьціць гэта. Ходзіць аб быцьці ці небыцьці нашае нацыі. Нацыянальная суверэннасьць ёсьць найкаштоўнейшым правам чалавека. Мы маем сілы, можам змагацца, і Бог не даруе нам пасыўнасьці. Таму прашу ўсіх - далучайцеся да змаганьня, далучайцеся сёньня. Перш за ўсё трэба яднацца паміж сабою, каардынаваць намаганьні зь іншымі арганізацыямі, рабіць усё для дапамогі Бацькаўшчыне.

Сп. Зянон Пазьняк выступіў з дакладам "Пагроза незалежнасьці Беларусі й мэтады яе абароны". Даўшы аналіз разьвіцьця палітычных падзеяў у Беларусі за перыяд незалежнасьці, а таксама аналіз так званай "інтэграцыі" з Расеяй, ён адзначыў, што працэс ліквідацыі незалежнасьці Беларусі наўмысна расьцягваецца, людзі стамляюцца адсочваць падзеі, прызвычайваюцца да інтэграцыйнай рэторыкі. Гэта называецца "эфэкт варанай жабы" - калі жабу ўкінуць у гарачую ваду, яна адразу выскачыць; калі-ж укінуць у халодную, і паставіць на агонь - жаба адразу не заўважыць, а пасьля будзе позна. Нажаль, не заўсёды людзі здольныя аналізаваць, убачыць, што Лукашэнка дзейнічае хутчэй як кантрактнік Масквы, заяўляўшы: "Сувярэніцет - эта чыпуха!", чым галава незалежнай дзяржавы. У палітыцы такая сытуацыя завецца ўнутранай акупацыяй. Што-ж мы павінны рабіць у час, калі набліжаецца абвешчаньне злачыннага рэфэрэндуму пра зьнішчэньне незалежнасьці Беларусі? Першае, самае істотнае - не дапусьціць гэтай ганебнай працэдуры. Давесьці такі беларускім людзям, што яны дайшлі да мяжы, калі паўстае пытаньне аб самым існаваньні Бацькаўшчыны. Мы маем дар Боскі - незалежнасьць, і цяпер павінны захаваць яе, аб'яднацца, абараніць. Сп. Пазьняк выказаў свае прапановы адносна ролі Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня у канкрэтнай дапамозе нацыянальным дэмакратычным сілам у Беларусі.

Затым выступіў прадстаўнік Радыё "Свабода" з Прагі сп. Сяргей Навумчык, які напачатку свайго выступу перадаў прысутным прывітаньне ад беларусаў Чэхіі й ад народнага пісьменьніка Васіля Быкава. Ён распавёў пра кантакты беларускай дыяспары ў Чэхіі, а таксама Рады БНР з чэскімі афіцыйнымі асобамі, сярод якіх апошнім часам былі віцэ-прэм'ер ураду і намесьнік міністра замежных спраў. Сп. Навумчык адзначыў, што Чэхія лабіруе справу захаваньня беларускай незалежнасьці ва ўсіх структурах Эўразьвязу. Сп. Навумчык падкрэсьліў, што беларуская дыяспара ёсьць гарантам незалежнасьці Беларусі, і яна шмат можа і павінна зрабіць дзеля гэтага.

Сп. Сямён Шарэцкі, старшыня Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня, выступіў з дакладам "Роля беларускай эміграцыі ў дэмакратызацыі Беларусі". Дакладчык выклаў перад прысутнымі вырашальныя падзеі апошняга дзесяцігоддзя ў Беларусі й выказаў свае прапановы адносна ролі беларускай грамады Амэрыкі ў дапамозе Бацькаўшчыне. Сп. Шарэцкі адзначыў, што Расея разам з сваім памагатым Лукашэнкам зьяўляецца самаю вялікаю пагрозаю незалежнасьці Беларусі, і паўстрымальную націску Расеі на Беларусь павінны паспрыяць захады Злучаных Штатаў, да фармаваньня якіх могуць і павінны спрыяніцца нашыя арганізацыі ў Амэрыцы. Сп. Шарэцкі запрапанаваў зьвярнуцца да краінаў Будапэшцкай групы, што гарантавалі незалежнасьць Беларусі ўзамен на вываз зь яе тэрыторыі нуклеарнай зброі, каб гарантыі, дадзеныя ў 1992-м годзе, выпаўняліся. Свой выступ прамоўца скончыў словамі: "Хай дапаможа нам Бог аб'яднацца!"

Сп. Віталь Зайка, старшыня ньюёрскага аддзелу БАЗА, выступіў з дакладам "Задачы БАЗА на сёньняшні дзень у справе дапамогі Бацькаўшчыне", у якім сканцэнтраваўся на надзённых задачах арганізацыі ў справе павелічэньня і ўмацаваньня яе шэрагаў, пашырэньня кантактаў з афіцыйнымі амэрыканскімі ўладамі й мас-мэдыямі, і праз сваю згуртаванасьць, як арганізацыі, ужываць усе магчымыя сувязі, кантакты й уплыў дзеля фармаваньня ў належных амэрыканскіх афіцыйных структураў заангажаванейшага і пасьлядоўнейшага падыходу да беларускіх справаў, прыняцьця рашучайшых мераў для аднаўленьня незалежнасьці й дэмакратыі ў Беларусі, перасьцерагаючы Расеі ад умяшаньня ва ўнутраныя справы Беларусі. Пры гэтым сп. Зайка адзначыў патрэбу мэтадычна даводзіць да амэрыканскіх афіцыйных структураў тое, што змаганьне беларусаў за сваю культуру і мову, за іхны належны статус у беларускай дзяржаве ёсьць неад'емнаю часткаю змаганьня за дэмакратыю і незалежнасьць. Права на сваю мову, сваю культуру ёсьць неад'емная частка правоў чалавека, і як такое, гэтая права мусіць з большаю павагаю трактавацца краінамі й арганізацыямі, што дапамагаюць Беларусі адстаяць незалежнасьць і свабоду.



*Адзін з арганізатараў канфэрэнцыі старшыня аддзелу БАЗА ў Кліўлендзе Пол Васілеўскі вітае ўдзельнікаў канфэрэнцыі.*

Затым выступіў выдавец і рэдактар газэты "Праспект" у Кліўлендзе сп. Бахціяр Бахціяраў, які спыніўся на падзеях апошніх нaкалькіх гадоў у Беларусі, на дзеяньнях апазыцыі ў Беларусі. Сп. Бахціяраў адзначыў, што дапамога, якая выдзяляецца апазыцыйным структурам у Беларусі, легальным чынам можа не дайсьці да адрасатаў, калі рэжым прыме адпаведныя меры. Нелегальная дапамога таксама праблематычная, бо ўрэшце факты пра яе стануць ведамыя, атрымальнікаў зяцягаюць па судох, засудзяць. Цяпер, у час жудаснага націску Лукашэнкі на незалежныя масавыя сродкі, у Беларусі вельмі моцна адчуваецца недахоп праўдзівай інфармацыі. Таму адказам на гэта магло-б стаць выданьне агульнаамэрыканскай беларускай газэты павялічанага фармату і перыядычнасьці (мінімум тыднёвік), якая распаўсюджвалася-б у ЗША, Канадзе, Аўстраліі, і якая адначасова была-б аўтарытэтнаю крыніцаю інфармацыі пра падзеі ў Беларусі й для людзей на Бацькаўшчыне. Другім крокам было-б стварэньне сатэлітарнай тэлевізыйнай станцыі, якая-б непасрэдна вяла перадачы на Беларусь у абыход усіх перашкодаў, што існуюць для іншых масавых сродкаў. У Кліўлендзе ёсьць шмат спэцыялістаў-тэлевізыйнікаў, таму варта было-б зрабіць Кліўленд сядзібаю гэтай станцыі. У ліку кампэтэнтных спэцыялістаў, да якіх далучае сябе сам прамоўца, былі генэральны дырэктар Беларускага Тэлебачаньня, шмат былых супрацоўнікаў, якія добра ведаюць сьпецыфіку працы й маглі-б з улікам сваіх ведаў тэлеаўдыторыі й прапагандысцкай тактыкі рэжыму выкрываць дзеяньні Лукашэнкі, прадстаўляць беларускаму народу лідэраў, якія знаходзяцца ў эміграцыі, і праз тэлестанцыю маглі-б даводзіць свае думкі й праграмы "зь першых рук".

Затым з самаю кароткаю прамоваю на канфэрэнцыі выступіў сп. Вячка Станкевіч, які даў агляд ходу кампаніі ў падтрымку Акту аб Дэмакратыі ў Беларусі-2003, адзначыў, што на дадзены момант Акт падтрымалі 10 кангрэсмэнаў і 6 сэнатараў. Калі здолеем зрабіць так, каб гэтыя лічбы падвоіліся - нашыя пляны тады могуць быць зьдзейсьнены. Сп. Станкевіч заклікаў працягваць кантактавацца з кангрэсмэнамі й сэнатарамі лістоўна і тэлефанічна, заклікаць рабіць гэта ўсіх сяброў і сваякоў.

Затым сп. С. Навумчык зачытаў дзьве рэзалюцыі канфэрэнцыі, дзе былі адлюстраваныя асноўныя думкі, выказаныя ў дакладах і прамовах, што прагучалі на канферэнцыі. Рэзалюцыі былі адзінагалосна прынятыя ўсімі прысутнымі.

Сп. Пол Васілеўскі падсумаваў працу канфэрэнцыі, адзначыўшы, што яе матэрыялы будуць надрукаваныя. Ён заклікаў да шчыльнага супрацоўніцтва і каардынацыі дзейнасьці ўсе беларускія арганізацыі й асяродкі.

Удзельнікі адспявалі беларускі нацыянальны гімн "Мы выйдзм шчыльнымі радамі".

**Віталь ЗАЙКА**

# Новы амбасадар ЗША ў Беларусі

Прэзыдэнт ЗША Джордж Буш абвесьціў пра намер прызначыць новым амбасадарам у Беларусі Джорджа Крола, які на пачатку 1990-х працаваў намесьнікам амэрыканскага амбасадара і часовым паверaным у справах ЗША ў Менску. Прэзыдэнт Буш накіраваў ягоную кандыдатуру на зацьверджаньне Сэнату. Джордж Крол заменіць на пасадзе цяперашняга амбасадара Майкла Козака.

У амбасадзе ЗША ў Менску пацьвердзілі факт намінаваньня новага кіраўніка дыпмісіі, аднак пакуль ад камэнтароў устрымліваюцца. Не гаворыць таксама, калі новы амбасадар прыбудзе ў Беларусь. Але відавочна, што працэдурныя справы зоймуць пэўны час. Цяперашні амбасадар Майкл Козак, напрыклад, два месяцы чакаў зацьверджаньня ў Сэнаце.

Майкл Козак працуе на пасадзе амбасадара ЗША ў Менску менш за тры гады, і беларускія ўлады ставіліся да яго з пэўнаю насьцярогаю. Спадар Козак прыбыў у Менск у кастрычніку 2000-га году, аднак даверчыя лісты змог перадаць А. Лукашэнку толькі 22-га лютага 2001-га году - Лукашэнка доўга адмаўляўся сустракацца са спадаром Козакам.

Намінаваны на пасаду амбасадара ЗША ў Беларусі Джордж Крол закончыў Гарвардзкі й Оксфардзкі ўнівэрсытэты, працаваў у амбасадах ЗША ў Менску, Кіеве, Маскве, быў дырэктарам Офісу расейскіх справаў Дяржддэпартамэнту.

Спадара Крола ў Менску многія ведаюць. На пачатку 1990-х гадоў ён быў намесьнікам першага амбасадара ЗША ў Беларусі Дэвіда Суорца, а пасьля ягонага ад'езду выконваў абавязкі часова паверанага ў справах.

***Радыё Свабода***

Рэпартажы пісаць ня ўмею. З часоў свайго камсамольскага юнацтва я маю трывалую алергію да справаздачаў, дакладаў, рэфэратаў, фанфараў і заклікаў "даёш..!" Таму аматарам "выконваць і перавыконваць", "даганяць і пераганяць" параю адкласьці маю пісаніну ўбок: пісаць буду толькі пра свае асабістыя ўражаньні. Не чакайце ад мяне пераліку дакладчыкаў з цытаваньнем урыўкаў з рэфэратаў. Не судзіце і за сумбурнасьць маіх нататкаў: усё запісана "па гарачых сьлядох". Сьвяткаваньні Дня Незалежнасьці БНР праходзілі ў Канадзе тры тыдні запар: у Мантрэалі - 23-га сакавіка, у Таронта - 30-га, у Атаве - 6-га красавіка.

шых сьвяткаваньнях усё-ж апраўданая. І калі я чую з прамоваў маіх равесьнікаў такія-ж самыя думкі й пачуцьці пераасэнсаваньня тых падзеяў, я разумею, што гэта - наш агульны лёс, які нас яднае.

Спн. Івонка Сурвілла прывезла ў Таронта аўдыякасэту з прамоваю Васіля Быкава. Жывы голас нашага вялікага суайчыньніка - гэта хвалюе і таксама дае пачуцьцё еднасьці з Радзімаю і з усімі, хто па-за яе межамі.

Але душою нашых сёлетніх сустрэчаў стала, ведама, нашая госьця - пісьменьніца Вольга Іпатава. Чалавек вялікай душы, неардынарны, з адметным талентам і лёсам, яна ператварала свае выступы ў літа-

што менавіта яны спрычыніліся да таго, што мы раптам апынуліся ў порце. Выявілася, ня так лёгка адтуль выбрацца, не дапамагала і мапа, дарам што напісаная ня нашаю (не ангельскаю) моваю. Скончыўся дождж, і, урэшце, мы выбраліся ў цэнтар. Усе непрыемнасьці, зьвязаныя з дажджом і блуканьнем, нам цалкам кампэнсавала наведваньне сабору Нотр-Дам. Прагуляліся і па вуліцах. Цудоўны горад, зусім не падобны на ўжо прывычны й родны Таронта. Раптоўнае пачуцьцё: вуліцы Мантрэалю чамусьці нагадалі Менск і невеялі крыху суму.

На зьмярканьні накіраваліся да дому, дзе меліся начаваць, - і апынуліся ў пор-

ца разам, пабачыцца, пагутарыць... Здаецца, паўтараюся. Ну, што-ж, як той казаў: будзем сябраваць гарадамі.

Ужо на разьвітаньне пачула: "А вы прыязджайце да нас яшчэ. Летам! Ведаеце, у нас тут цудоўны порт - наша любімае месца летам..." - "М-так, - адказала я, - ваш порт - цудоўнае, чароўнае месца. Мару пабываць там яшчэ ўлетку."

...Спадзяюся, нястрымнасьць майго языка нікога на зачапіла.

Якою-бы глыбокаю ні была традыцыя загуканьня вясны, але ў Канадзе сьнег і мароз у першы тыдзень красавіка пасьля па-вясноваму цёплага надвор'я ў сакавіку - традыцыя яшчэ больш трывалая!

# ЯК МЫ ВЯСНУ ЗАГУКАЛІ

## сьвяткаваньне Дня Незалежнасці Беларусі ў Канадзе

Мая галоўная ідэя простая, як жыцьцё, - мы сьвяткавалі дзень нараджэньня нашай, собскай дзяржавы, імя якой Беларусь! Мы - гэта новае пакаленьне эмігрантаў, дзеці драконаўскай дзяржавы, якая ўсе намаганьні прыклала, каб парасьціць з нас манкуртаў, - мы ўсё-ж пераняЛі эстафэту ў старэйшага пакаленьня, якое захавала і данесла да нас яе - нашую БНР. І мы проста радаваліся і весяліліся, хоць і стараліся трымацца ўзьнёсла-ўрачыста - ну, як усе дзеці, што сьвяткуюць свой дзень нараджэньня. А гэты сьвяточны трохтыднёвы маратон - Мантрэаль - Таронта - Атава - кружыў нас у коле падзеяў і ўражаньняў.

Праўда, самая тэма вымушае да сур'ёзных развагаў. Я, як і многія мае равесьнікі, прыехала ў Канаду, так і не разумеючы: чаму 25-га Сакавіка? У падручніках майго дзяцінства такой даты не было... Аднойчы мой сын, студэнт high school, атрымаў заданьне зрабіць "праджэкт" аб якой-небудзь падзеі (на выбар) з часоў Першай Сусьветнай вайны. Я параіла яму: а напішы пра Беларусь. Як раз пра тое, як дзьве імпэрыі біліся міжсобку да на тэрыторыі трэцяй краіны - на нашай зямлі. Пра Брэсцкую мірную дамову, якая падзяліла яе на дзьве часткі. Напэўна-ж, думала, канадыйскія настаўнікі не акцэнтуюць на гэтым ўвагі. Хаця я і сама ня ведала пра гэты факт падрабязна. Сын, сапраўды, не знайшоў інфармацыі на ангельскай мове. Ужо не на жартачкі зацікаўленая, я палезла ў нашую царкоўную бібліятэку. Айцец Вячаслаў (наш жывы даведнік) пакрысе знайшоў для мяне ўсю патрэбную інфармацыю: мэмуары, гістарычныя нарысы, энцыкляпэдыі... Ідэя прыйшла сама сабою: "А напішы, сынку! Напішы тым канадыйцам, як сярод пажараў і разрухі галодны, змучаны вайною мірны народ сабраўся і абвесьціў сябе незалежнаю дзяржаваю - Народнай Рэспублікай! ...І як два ненажэрныя драпежнікі, што ваявалі між сабою, сустрэліся на тэрыторыі гэтае дзяржавы й вырашалі яе лёс, нават не запрасіўшы яе прадстаўнікоў на перамовы, - разадралі яе на дзьве часткі! А потым самая "доблесная" Чырвоная Армія задушыла яе канчаткова." (...А я-ж усё жыцьцё расказвала сваім сябрам-небеларусам, які спакойны й лагодны наш народ: нават рэвалюцыя прайшла ў нас мірна - прыйшоў у Менск бранецягнік, якраз на плошчу Мясьнікова, і ўсе былі шчасьлівыя і кідалі ў паветра шапкі.) "Ведаеш, сын, а ўсё-ж не задушылі. БНР жыве. Яна жыве за мяжою. Там, дзе мы с табою цяпер. І цяпер гэта нашая справа - берагчы яе і не даць ёй згаснуць, як эстафэтнаму агню."

Кожны год, на кожнае сьвяткаваньне прыходзяць новыя беларусы - нашыя новапрыбылыя суайчыньнікі. І кожны раз прыходзіцца тлумачыць, якую падзею мы тут сьвяткуем. Таму прысутнасьць часткі дакладаў як асьветніцкай працы на на-

ратурныя вечарыны. Цікавыя аповеды, развагі, вершы - мы даўно засумавалі па такім імпрэзам. Людзі віталі яе стоячы.

Адметнай падзеяй сталася і выстава працаў нашых дзяцей-мастакоў Яўгеніі Шаўчэнка, Антона Вараб'я, Ганны й Аляксандры Русецкіх.

це. ...Каюся: я засталася ўбаку ад агульных пошукаў выйсьця з гэтай загадкавай плямы на мантрэальскай мапе - уся мая творчая энергія была накіраваная на стрыманьне майго нястрымнага языка, які раптам атрымаў такую нагоду патачыць сваю вастрыню. Тым часам, я не су-



*Гурт "Яваровы людзі": першы рад (сядзяць) злева направа - Яўген Малашчанка, Воля Яноўская, Маша Краўцова, Іна Сянько. Другі рад - Ірына Варабей, Саша Манькоўская, Піліп Тананка, Аліна Ржуцкая, Маша Цьвяткова, Алёша Манькоўскі, Лешэк Сянькевіч, Вялянціна Шаўчэнка, Ірына Шарамет, Віялета Кавалёва (мастацкая кіраўнічка).*

Мой асабісты ўдзел у гэтым сьвяточным маратоне быў зьвязаны з гуртам "Яваровы людзі", выступ якога ад пачатку меркаваўся як "цьвік праграмы". Менавіта яго жадалі бачыць і чуць нашыя сябры ў Атаве і Мантрэалі. (У апошнім, дарэчы, яшчэ ні разу не былі, так што гастролі абяцалі быць хвалюючымі.) Я, праўда, у гурце не сьпяваю (толькі "ноты гартаю"), таму мая вандроўка была пад сумненьнем: бракавала месцаў у аўтах. Але літаральна ў апошні тыдзень кіраўнічку гурта (маю сяброўку) Віялету Кавалёву азарыла новая ідэя. Рэч у тым, што гурт рыхтаваў цыкль песьняў з абраду "Загуканьне вясны", і ёй зьявілася цудоўная думка: зрабіць з гэтага нешта накшталт спэктаклю зь вядучым-казачнікам, які будзе тлумачыць сэнс кожнае песьні. За тры дні да паездкі яна давярае мне ўвасобіць яе мару, і мой першы маршкідок да Мантрэалю ператвараецца ў блуканьне па нэрвах: хаця тэкст і напісала за адзін дзень, але да выступу цалкам негатовая. Праўда, усе мае дэбютанцкія хваляваньні заштрыхоўваюцца колерамі майго "шчасьлівага квітка": мне пашчасьціла ехаць у адным аўта з Вольгаю Іпатавай! Што я магу сказаць - сяброўства з такім чалавекам, размовы аб гісторыі, літаратуры, філязофіі - я пакуль ня ў стане апісаць усе свае ўражаньні...

Мантрэаль сустрэў нас хмурымі аблокамі й праліўным дажджом. Упэўненая,

мавала. Як стары спартовец-валацуга, я захавала любоў да вандровак, і любое знаходжаньне на колах прыносіць мне асалоду. Тым больш, кампанія добрых сяброў пераважвае ўсе складанасьці дарогі... Сп-ва Крыстыны й Анатоля Хрэноўскіх дачакалася нас дома ўжо ўзацемку.

Ведаеце, гэтыя нашыя беларускія хаты... Шчырыя гаспадары, гасьцінны прыём, вячэра з прымусам. А яшчэ - клапатлівыя ўмелыя рукі нашай гаспадыні - спадарыні Крыстыны: прыемна ўразілі ня толькі смачныя стравы, а і цэлая калекцыя цудоўных вышываных кашуляў і блюзак. І ўсё гэтае - размовы дапазна, апошняя рэпэтыцыя ў бэйсманце, агульны начлег са сьмехам да паўночы (што дзеці, далібог!) - я-бы прыдумала сьвяты, калі-б іх не было, адно дзеля такіх сустрэчаў і прыгодаў.

Самая імпрэза была ўрачыстаю і ў той-жа час камэрнаю і цёплаю. Бальшыня мантрэальскіх беларусаў прыйшлі ў вышыванках (напэўна-ж, зробленымі рукамі майстрыхі Крыстыны). Я сама вельмі зацікаўленая вышыўкаю і беларускімі сымбалямі й думаю, гэтаму нашаму адметнаму старажытнаму рамяству яшчэ зарана адыходзіць у нябыт, яму цалкам можа знайсьціся месца ў сучасным выяўленчым і прыкладным мастацтве.

Цёплы сяброўскі прыём, новыя знаёмствы, сустрэчы - зноў прыходзіць думка, што сьвяты - добрая нагода, каб зьбірац-

Напярэдадні нашае вандроўкі ў Атаву раптам пахаладала, пайшоў мокры сьнег, які тут-жа і замярзаў. Усё навакольле пакрылася ледзяною коркаю. Гэта, можа, добрая нагода для фатографаў, каб нарабіць дзівосных здымкаў, але не для падарожнікаў! Такі безупынны двухдзённы мокра-мёрзлы сьнегапад вызваў халадок сумненьняў у нашых душах, але Атава чакала нас.

Суботні вечар ператварыў хату спадароў Пятра і Натальлі Мурзёнкаў у сапраўдны "востраў чаканьня" сярод засьнежанай і туманнай Атавы. Мы выяжджалі з Таронта чатырма аўтамі ў розны час, і толькі прыбыўшы да Мурзёнкаў бальшыня з нас, асабліва жанчыны, прызнаваліся, што, сапраўды, баяліся, але дарогаю маўчалі й толькі ў душы маліліся за нашых кіроўцаў. Хата нашых сяброў вытрывала "нашэсьце" нашай неспакойнай разнастайнай кампаніі ў складзе 22 чалавек і нагадвала ў той вечар нешта сярэдняе паміж пчаліным вульлем і тавэрнаю: на кухні вячэрае чарговая "зьмена", нехта п'е сваю гарачую каву ў гасьцёўні на падлозе, бо за столікамі ідзе апошняя падрыхтоўка строяў, нешта перашываецца, прасуецца; у бэйсманце (ужо традыцыйна) ідзе рэпэтыцыя; грукацяць ад ног лесьвічкі: ляскаюць уваходныя дзьверы, прымаючы ўсё новых вандроўнікаў, якіх ужо чакае смачная, гарачая вячэра і цёплая бяседа. Пятро, наш гаспадар, аказалася, ня толькі добры прамоўца на афіцыйных імпрэзах, але й цудоўны тамада: "Я дзякую Богу, што мы ўсе сабраліся разам. Я ўдзячны Яму за гэтую магчымасьць зьбірацца разам, дзяліцца думкамі, разумець адзін аднаго, падтрымліваць адзін аднаго. Я спадзяюся, і надалей гэтак будзе."

Сьнегапад да раніцы скончыўся, але мароз трываў. Нядзеля выдалася па-зімоваму марозная і сонечная. Хаця надвор'е ўжо ня мела для нас паважнага значэньня. Мы рабілі тое, што меліся зрабіць: нашаю галоўнаю мэтаю ў Атаве было пікетаваньне расейскае амбасады. Разам зь сябрамі - беларусамі з Атавы й Мантрэаля - мы выйшлі зь бел-чырвона-белымі сьцягамі й плякатамі на вуліцу насупраць будынку расейскай амбасады, каб выказаць свой пратэст супраць пляну расейскіх уладаў па анэксіі Беларусі. Мы скандавалі разам: "Жыве Беларусь!", "Пуцін, ганьба!", "Independent Belarus!", "Hands off Belarus!" (апошнія два, праўда, былі больш дзеля канадыйскіх паліцыянтаў, што двума аўтамі ахоўвалі нас). Мы нават, нягледзячы на мароз, прасьпявалі гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі" (дарам што артысты!).

А імпрэза сьвяткаваньня Дня Незалежнасьці прашла ў City Hall.

Пасьля афіцыйнае часткі, прайшой канцэрт дуэту "Простыя рэчы" з удзелам

*Заканчэньне на бач. 7*

# Беларусь за месяц

## Чарнобыльскі шлях

26-га красавіка ў Менску адбыўся традыцыйны "Чарнобыльскі шлях", у якім, па ацэнках недзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі, узялі ўдзел да трох тысяч чалавек. Напачатку плянавалася, што ўдзельнікі зьберуцца на Плошчы Якуба Коласа і адтуль па праспэкце Скарыны й вуліцы Купалы дойдуць да Менскай Опэры. Аднак гарвыканкам забараніў гэта і зноў накіраваў шэсьце на Плошчу Бангалёр. Каб не правакаваць рэпрэсыі, сышліся на тым, што ўдзельнікі акцыі зьбяруцца на пляцоўцы перад прэзыдыюмам Акадэміі навук.

Перад будынкам Акадэміі й прайшоў невялічкі імправізаваны мітынг. Да прысутных зьвярнуўся кіраўнік арганізацыйнага камітэту па адзначэньні ўгодкаў трагедыі Іван Нікітчанка. У сваім выступе ён зьвярнуў увагу на тое, што наступствы трагедыі насельніцтва забруджаных раёнаў адчувае і цяпер: па выніках дасьледаваньняў зь дзесяці праверaных толькі адзін чалавек здаровы, а колькасьць хворых дзяцей ў краіне з 1986-га году павялічылася больш чым у чатыры разы.

Па сканчэньні мітынгу ўдзельнікі акцыі пад гукі жалобнага звону прайшлі па вуліцы Сурганава (да ўнівэрсама "Рыга"), дзе прайшла жалобная цырымонія, якая доўжылася 17 хвілін, па адной хвіліне за кожны год, што прайшоў ад часу трагедыі.

Былі праведзеныя жалобныя акцыі й у іншых гарадох Беларусі. У Гомлі - самым забруджаным абласным цэнтры Беларусі - сабраліся некалькі дзесяткаў грамадзянаў. У адным з гарадзкіх сквераў яны правялі жалобную цырымонію стаўшы ў кола з запаленымі сьвечкамі і бел-чырвона-белымі сьцягамі, перавязанымі жалобнымі стужкамі.

У Віцебску 17-я ўгодкі Чарнобылю адзначылі прадстаўнікі дэмакратычных партыяў і няўрадавых арганізацыяў. Яны пад бел-чырвона-белымі сьцягамі прайшлі пешкі ад гарадзкое ратушы да Плошчы Леніна. На ўсім шляху іх суправаджалі супрацоўнікі міліцыі, якія настойліва патрабавалі згарнуць сьцягі. Адметна тое, што на плошчы Свабоды гарадзкія ўлады ў гэты дзень зладзілі кірмаш з гарэлкаю на разьліў і шашлыкамі. І гэта была праваслаўная Вяліка Субота!

А ў Магілёве 26-га красавіка прадстаўнікі дэмакратычных партыяў усталявалі памятны крыж. Упершыню такі крыж усталявалі ў 1996-м годзе і быў ён з дрэва. З-за гэтага яго некалькі разоў нішчылі вандалы. Таму цяпер вырашылі зрабіць крыж жалезным, а яго аснаваньне зацэментаваць. Побач з крыжам усталявалі пліту з надпісам: "Вечным ахвярам Чарнобылю".

Акцыі, прысьвечаныя ўгодкам катастрофы, прайшлі таксама ў Пінску, Барысаве, Слоніме.

## Рок-каранацыя

На тры месяцы пазьней як звычайна, 25-га красавіка, была праведзеная сёлета Рок-каранацыя. Яна была прысьвечаная памяці лідэра "Песьняроў" Уладзімера Мулявіна. Рок-карону атрымаў "алькагольны" праект "Крамбамбуля", аднак пераможцы там-жа на сцэне аддалі рок-карону сынам Уладзімера Мулявіна.

"Крамбамбуля" таксама перамагла ў намінацыях "Альбом году", а кампазіцыя "Абсэнт" зь яго была прызнаная найлепшаю песьняю. "Адкрыцьцём году" стаў гурт "Лялькі", "Падзеяй 2002-га году" - адкрыцьцё Першага музычнага каналу, "Прадусарам году" сталі Адам Старповіч, Андрэй Халадзінскі і Руслан Макараў за беларускую вэрсію "Depeche Mode". Прыз "Традыцыі й сучаснасьць" атрымаў "Стары Ольса", а спэцыяльным прызам быў узнагароджаны неафіцыйны сайт "Песьняроў" (www.piesnyary.com).

У наступным годзе арганізатары абяцаюць зьмяніць фармат Каранацыі.

## Навіны журналістыкі

5-га траўня ў Беларусі адзначаўся Дзень друку. Гэтая дата - не дзень выхаду першага нумару "Мужыцкай праўды", ці "Нашай нівы", гэта - дзень выхаду ленінскай "Праўды". Таму і мерапрыемствы адпаведныя.

Напярэдадні сьвята Міністэрства інфармацыі ўручыла прызы найлепшым журналістам Беларусі. Няма сэнсу пералічаць усіх намінантаў. Адно зазначым, што галоўным прыз - "За плённую працу ў беларускай журналістыцы" - атрымаў скандальна вядомы пясьняр лукашэнскай рэчаіснасьці Аляксандар Зімоўскі, цяперашні гендырэктар "Сталічнага тэлебачаньня".

Пры канцы красавіка пасьля паўгадовага перапынку выйшаў першы нумар газэты "Салідарнасьць". Заснавальнік - Беларускі незалежны прафсаюз, а галоўным рэдактарам - Аляксандар Старыкевіч, звольнены мінулым летам з ужо пралукашэнскаўскага "Беларускага часу".

## Прэмія Разанаву

Беларускі паэт Алесь Разанаў атрымаў прэмію імя Ёгана Гердэра фонду Тэплера. Прэмія ўручаецца штогод за дасягненьні ў галіне літаратуры, жывапісу, музыкі ды інш. Беларусы ўжо атрымлівалі гэтую прэмію - у 1999-м годзе лаўрэатам стала Сьвятлана Алексіевіч.

Памер прэміі - 15 тысяч эўра, яна ўключае ў сябе таксама дзесяцімесячную стыпэндыю для навуковай стажыроўкі ў Венскім унівэрсытэце для маладога беларускага навукоўца, кандыдатуру якога мусіць вызначыць сам Алесь Разанаў.

## Краіна Беларусь

У красавіку зьявілася новая кніга "Краіна Беларусь. Ілюстраваная гісторыя". Як кажуць, аналягаў ёй не было. На 320 вялікафарматных старонках зьмешчана каля 2000 ілюстрацыяў, а ахопліае перыяд ад старажытных часоў да 1918-га году. Аўтары кнігі пісьменьнік Уладзімер Арлоў і мастак Зьміцер Герасімовіч. Кніга выйшла накладам 5 тысяч асобнікаў і каштуе нямала - каля 20 даляраў.

## Галоўны вораг прэсы

На пачатку траўня арганізацыя "Рэпарцёры бязь межаў" надрукавала чарговы сьпіс галоўных ворагаў прэсы ў сьвеце. "Прыемна", што Беларусь зь яе прэзыдэнтам Лукашэнкам у гэтым сьпісе на першым месцы. Лукашэнку закідаюцца судовыя выракі й перасьлед незалежных журналістаў - Міколы Маркевіча, Віктара Івашкевіча, Паўла Мажэйкі, а таксама датычнасьць да зьнікненьня Зьміттра Завадзкага.

У сьпіс найгалоўнейшых ворагаў прэсы ў сьвеце таксама трапілі кубінскі Фідэль Кастра, лідэр Карэйскай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікі Кім Чэн Ір, прэзыдэнт Сырыі Башыр Асад, а таксама кіраўнікі Расеі, Туркмэніі й Узбэкістану, Уладзімер Пуцін, Сапармурат Ніязаў і Іслам Карымаў.

## Пераможцу далі тры гады турмы

Летась шырака ўшаноўвалі пераможцаў "Жніва-2002" з уручэньнем каштоўных прызоў і ўвагаю прэзыдэнта. Пераможцамі тады сталі камбайнэры Уладзімер Бондараў і Уладзімер Пільневіч з Клецкага раёну. А пазьней выявілася, што колькасьць намалочанага імі збожжа была непраўдзівая, і суд Пухавіцкага раёну прызнаў Бондарава і Пільневіча вінаватымі ў фальшаваньні вынікаў леташняга жніва.

Адхрысьціліся ад камбайнэраў і кіраўніцтва Клецкага раёну, дзе стала працуюць гора-пераможцы, і кіраўніцтва саўгасу "Рудзенскі" Пухавіцкага раёна, дзе быў пастаўлены рэкорд, і абласныя кіраўнікі. Уладзімера Бондарава пакаралі ўмоўна, Пільневічу далі тры гады турмы. Абскарджаньне ў Менскім абласным судзе вынікаў не дало. Прысуд пакінулі ранейшым.

У інтэрв'ю Радыё Свабода Ў. Пільневіч заявіў, што рэальныя паказчыкі мусілі адсачыць рэвізійныя камісіі "Мы-ж не маглі столькі людзей падмануць ці ўгаварыць. Проста адбылася памылка, а далей ніхто яе не знайшоў... Дакладныя тоны ня ведалі. Гэта ня наш абавязак, падлічваць. Дзеля гэтага ёсьць адпаведныя людзі на пасадах, якія павінны былі выконваць сваю працу, а ня мы за іх".

## На Берасьцейшчыне пабольшала баброў

У красавіку беларуская сродкі масавай інфармацыі абляцела радасная навіна: у Берасьцейскай вобласьці пабольшала баброў. Іх папуляцыя за пару гадоў павялічылася зь некалькіх сотняў да трох тысяч. Паводле перапісу дзікага жывёльнага сьвету на Берасьцейшчыне, менавіта бабры далі большы прырост. Прычыны такога прыросту называюць самыя розныя: ад міграцыі з суседняй Польшчы да вынікаў прыродаахоўных мерапрыемстваў. Забыліся, праўда, яшчэ на адну вэрсію. Упалі ў некалькі разоў цэны на бабровыя шкуркі. Вось і перасталі у такіх колькасьцях біць баброў на блізкай да Польшчы Берасьцейшчыне - нявыгадна.

*Уласны карэспандэнт*

## Конкурс імя Натальлі Арсеньневай

Фінал літаратурнага конкурсу імя Натальлі Арсеньневай, абвешчанага на пачатку 2003-га году, прайшоў у Менску 1-4-га траўня. Арганізатарам выступіла РГА "Беларускі ПЭН-цэнтр" пры інфармацыйнай падтрымцы некаторых беларускіх СМІ.

На працягу чатырох дзён для фіналістаў ладзіліся сустрэчы зь вядомымі беларускімі пісьменьнікамі, мовазнаўцамі, крытыкамі. З парадамі й пажаданьнямі да маладых творцаў зьвярнуліся Рыгор Барадулін, Уладзімір Арлоў, Васіль Сёмуха. Выдавец Ігар Логвінаў распавёў, што трэба мець, каб выдаць уласную кнігу. Мовазнаўцы Пётра Садоўскі, Юрась Бушлякоў, Зьміцер Саўка і Валянціна Сіўковіч пазнаёмілі з асаблівасьцямі беларускага правапісу і маўленьня. Поглядамі на стан культуры падзяліся кандыдат філялагічных навук Пятро Васючэнка, музычны крытык Юлія Андрэева, перакладчык Лявон Баршчэўскі, выкладчык Беларускага ліцэю імя Якуба Коласа Уладзімір Емельянчык.

Фіналісты конкурсу і сябры журы агучалі й абмяркавалі творы пісьменьнікаў-пачаткоўцаў. Падчас паэтычнага турніру, які прайшоў у межах выніковага сэмінару, маладыя літаратары паспрабавалі сябе ў паэтычным перакладзе, складаньні эпіграмы, прысвячэньня, санету.

Сэмінар завершыўся вечарынаю-кабарэ, дзе фіналісты выступілі са сваімі лепшымі творамі. Удзельнікі конкурсу былі ўзнагароджаныя кнігамі, дыскамі й ганаровымі граматамі. Музычным падарункам для маладых літаратараў стала выступленьне барда Віктара Шалкевіча.

*BARCNEWS*

## Вайна супраць "трэцяга сэктару"

Яшчэ тры грамадзкія арганізацыі апынуліся на мяжы закрыцьця. Гэтым разам ахвярамі беларускага рэжыму могуць стаць Гарадзенскае абласное грамадзкае аб'яднаньне "Ратуша", Грамадзкае аб'еднаньне рэгіянальнага разьвіцьця "Варута" з Баранавічаў і Грамадзкае аб'еднаньне "Моладзевы хрысьціянска-сацыяльны саюз" зь Менску. Адпаведныя позвы ў суд былі пададзеныя ў розных рэгіёнах краіны адначасова, што сьведчыць аб невыпадковасьці гэткіх захадаў з боку ўладаў. Прадстаўнікі няўрадавых арганізацыяў мяркуюць, што закрыцьцё структураў "трэцяга сэктару" ёсьць падрыхтоўкаю да чарговай буйной палітычнай кампаніі ў Беларусі.

*Радыё Рацыя*

# АКТ АБ ДЭМАКРАТЫІ Ў БЕЛАРУСІ ПРАХОДЗІЦЬ НАСТУПНУЮ СТАДЫЮ

**Міжнародная Камісія Палаты прадстаўнікоў Кангрэсу ЗША ўключыла асноўныя палажэньні Акту аб Дэмакратыі ў Беларусі-2003 ў законапраект Акту Аўтарызацыі Міжнародных зносін на 2004-2005-ы гады. Галасаваньне аб выстаўленьні законапраекту на разгляд усяе Палаты прадстаўнікоў Кангрэсу ЗША прайшла 8-га траўня.**

Як сказаў Орэст Дэйчакіўскі, супрацоўнік Гэльсынкскага камітэту пры Кангрэсе ЗША, рашэньне аб'яднаць два законапраекты было прынятае для таго, каб прысьпешыць і палегчыць прыняцьце Акту аб Дэмакратыі ў Беларусі. Магчыма, што пасьля сёньняшняга галасаваньня ў Камісіі, Акт Аўтарызацыі Міжнародных зносінаў, які ўключае і палажэньні беларускага Акту, будзе прадстаўлены на галасаваньне ўсяе Палаты ўжо ў чэрвені.

Сама назва "Акт аб Дэмакратыі ў Беларусі" зьнікла. Цяпер усе асноўныя палажэньні дакумэнту ўвайшлі як разьдзел 15 Акту Аўтарызацыі. Зьмякчыліся і некаторыя фармулёўкі. Так, напрыклад, сума дапамогі 40 мільёнаў даляраў, якая фігуравала ў Акце аб Дэмакратыі ў Беларусі, была перафармуляваная на "неабходную суму".

Аднак дакумэнт захаваў палажэньні пра дапамогу недзяржаўным арганізацыям і мэдыям ды санкцыі ў дачыненьні да рэжыму. Таксама захаваліся палажэньні, якія вымагаюць ад прэзыдэнта ЗША справаздачы аб продажы і дастаўцы беларускім рэжымам зброі і тэхналёгій. Нагадаю, што Сэнацкая вэрсыя законапраекту застаецца пакуль нязьменнай. Так што канчатковы законапраект можа яшчэ некалькі разоў зьмяніцца ў працэсе праходу праз інстанцыі Палаты прадстаўнікоў і Сэнату.

Варта таксама дадаць, што Дзярждэпартамэнт, які займаецца вызначэньнем замежнай палітыкі ЗША, цалкам падтрымлівае гэтую ініцыятыву Кангрэсу.

*Радыё Свабода*

# ДУМКА ПРАДСТАЎНІКА БЕЛАРУСІ

**У часе паседжаньня ў Жэневе чарговай 59-й сэсыі камісыі ААН па правох чалавека, прадстаўнік ад Беларусі, Уладзімер Малевіч, заявіў, што галоўны паказьнік дэмакратычнага грамадзтва - гэта свабода апініі. Насамрэч, урады нават з глыбокай традыцыяй дэмакратыі часта парушаюць гэтае права. Найбольш красамоўны прыклад гэткіх парушэньняў сп. Малевіч бачыць у ЗША, калысцы дэмакратыі.**

**Паводле беларускага чыноўніка, ЗША парушаюць права на свабоду апініі ў выпадку з вайною ў Іраку, не дакладна інфармуючы насельніцтва пра сытуацыю, што і прывяло да трагедыі. У якасьці доказу спадар Малевіч спасылаецца на заявы незалежнага друку пра гэта (незразумела чыйго незалежнага друку).**

**У той-ж час у Беларусі сп. Малевіч бачыць поўны парадак з дакладным інфармаваньнем насельніцтва, бо-ж у Беларусі ёсьць канстытуцыйныя гарантыі на права выказваньня і свабоды прэсы. Нават і болей таго, пераважная бальшыня мас-мэдыяў у Беларусі - недзяржаўныя, што і паказвае на незалежнасьць прэсы.**

*Алеся СЁМУХА*

# "ЗЬ ВЯЛІКАЙ ПАШАНАЙ ДА ВАС"

Рэабілітаваны ў лістападзе 1957-га пасьля амаль 30-гадовай ссылкі Ўладзімер Дубоўка пакутліва й складана вяртаўся ў культурнае і літаратурнае жыцьцё Беларусі. Зрэшты, ня толькі як пісьменьнік. Разам з паэтычным даробкам аднаго з заснавальнікаў "Узвышша" пад цэнзарскім наглядам нанова адкрывалі яго мовазнаўчыя артыкулы, прысьвечаныя разьвіцьцю беларускай літаратурнай мовы, а таксама распрацоўцы пытаньняў артаграфіі й граматыкі. Тады, у 1960-я, ды й пазьней публікацыі Ўл. Дубоўкі старанна хавалі ў так званых спецфондах побач зь іншай нацдэмаўскай літаратурай і перыёдыкай.

У палове 60-х гадоў Інстытут мовазнаўства АН Беларусі ў Менску распачаў маштабную працу па напісаньню фундамэнтальнай гісторыі беларускай літаратурнай мовы. З гэтае прычыны жменька навукоўцаў атрымала афіцыйны дазвол на выкарыстаньне "спэцфондаўскай" літаратуры. Другі том "Гісторыі беларускай літаратурнай мовы" быў прысьвечаны праблемам станаўленьня й развіцьця новай




беларускай літаратурнай мовы ў XIX - XX стагодзьдзях. Галоўная мэта дасьледаваньня, як адзначалі аўтары, палягала на аналізе "унутраных структурных асаблівасьцяў беларускай літаратурнай мовы ў кантэксьце зьнешніх фактараў гісторыі беларускага народу." Пасьля дзесяцігодзьдзяў сьвядомага замоўчваньня і ігнараваньня ў навуковы ўжытак уводзілася "Беларуская Граматыка" Б. Тарашкевіча, мовазнаўчыя дасьледаваньні й навуковыя публікацыі так званых "нацдэмаў": М. Байкова, П. Бузука, братоў Гарэцкіх, М. Касьпяровіча, С. Некрашэвіча, У. Пічэты. Бадай, упершыню грунтоўна і ўсебакова была разгледжаная праца акадэмічнай канфэрэнцыі 1926-га году, а таксама прааналізаваныя асноўныя палажэньні рэформы беларускага правапісу 1933-га году. Не засталіся па-за увагаю і мовазнаўчыя публікацыі Ўл. Дубоўкі.

У рэаліях тагачаснага грамадзка-палітычнага й культурнага жыцьця Беларусі выхад такой фундамэнтальнай працы быў актам грамадзянскай мужнасьці й дазволіў аўтарам, прынамсі часткова, пазнаёміць паваенныя пакаленьні беларусаў з той навуковаю спадчынаю, якую разам зь імёнамі яе творцаў спрабавалі выкрэсьліць зь беларускай гісторыі й амаль да пачатку дзевяностых гадоў усё яшчэ хавалі ад грамадзкасьці.

Вось як аб тым успамінае доктар філялягічных навук Алена Юрэвіч, адзін з аўтараў згаданага акадэмічнага дасьледаваньня: Праца над II-м томам "Гісторыі беларускай літаратурнай мовы" дала мне магчымасьць перабраць схаваныя ў "спецфондзе" Ленінкі [Нацыянальная бібліятэка Беларусі] матэрыялы. Асоба Ўладзмера Дубоўкі, яго дасьведчанасьць, шырокія гуманістычныя веды, аўтарытэт паэта вылучаліся нават у тым багатым асьветніцка-пісьменьніцкім асяродзьдзі 20-х і 30х гадоў. Другі том "Гісторыі..", меў трох аўтараў. Кожны імкнуўся адлюстраваць на старонках такой працы больш новых, раней перакрэсьленых, перакручаных, адкінутых фактаў. Алеі рэдактары, і цэнзары па-ранейшаму сачылі за кожным словам, за кожнаю "крамольнай думкай", хоць й была адліга. Такім чынам, у кнігу трапіла мала з таго, пра што хацелі й маглі расказаць.

Калі кніга выйшла, я паслала яе ў Маскву Ўладзімеру Дубоўку. Ён быў вельмі зьдзіўлены й усьцешаны, што ёсьць яшчэ ў Беларусі, якая так і не прыняла яго пасьля зьняволеньня, людзі, якія помняць яго, шануюць, па справядлівасьці ацэньваюць ягоную дзейнасьць. На жаль, гэты першы Дубоўкаў ліст не захаваўся - многа хадзіў па руках, чытаўся акадэмічнымі калегамі й недзе "асеў".

Дасланая кніга была для Ў. Дубоўкі ня толькі грунтоўным дасьледаваньнем па гісторыі беларускай літаратурнай мовы. Яна вяртала паэта ў ягоную маладосьць, у тыя, напоўненыя беларушчынаю і актыўнаю грамадзка-культурнаю працаю на карысьць Бацькаўшчыны, дваццатыя гады. Да калег і сяброў па літаратурнаму варштату, большасьць зь якіх незваротна зьнікла ў молаху сталінскіх рэпрэсій. Пасьля ўсяго перажытага была яна ў чужой для паэта Маскве яшчэ адною згадкаю пра родную Беларусь.

У лютым 1969-га году, зноўку вяртаючыся да 2-га тому акадэмічнага выданьня "Гісторыі беларускай літаратурнай мовы" Ул. Дубоўка ў чарговым лісьце да Алены Юрэвіч пісаў:

Сардэчна паважаная Галена Казіміраўна!

[...] Прыемна ўражаны і крыху зьдзіўлены Вашай нястомнай энергіяй, зь якой Вы пераварнулі такую гару матарыялаў, якая дае нам, чытачам, цікавыя й каштоўныя вывады-высновы.

Дзівіць малы тыраж такой каштоўнай працы. Гэта значыць, не ва ўсіх бібліятэках будзе яна.

Ад шчырага сэрца жадаю Вам новых дасягненьняў, добрага здароўя.

Зь вялікай пашанаю Ўл. Дубоўка

Карыстаючыся зручным выпадкам, віншую Вас, Галена Казіміраўна, і Галену Іванаўну з надыходзячым Сьвятам - 8 Сакавіка. Усяго Вам самага найлепшага, зьдзяйсьненьня Вашых запаветных жаданьняў!

Ул. Дубоўка

А потым у Менск і Маскву ішлі падарункі - кнігі й радкі віншаваньняў. Рэдкія, але заўсёды шчымліва-пранікнёныя й дарагія. Такія, як і сьвяточная травеньская паштоўка зь „Днём Перамогі" з 1969-га году, у якой паэт віншаваў Алену Юрэвіч з выхадам яе чарговай кнігі пра П. Бузука (У. Дубоўка меў на ўвазе кнігу Я. Рамановіч і А. Юрэвіч "П. А. Бузук". Мн., 1969):

Дарагая Алена Казіміраўна!

[...] Ад шчырага сэрца жадаю Вам новых поспехаў у навуковай працы, новых творчых дасягненьняў і зьдзяйсьненьня ўсіх Вашых запаветных жаданьняў. На жаль, апрача аднаго экз. [эмпляра] дасюль не атрымаў з кнігарні сваю новую аповесьць "Ганна Алелька", каб аддзякаваць Вам за Ваш падарунак.

Можа ў гэтым м-цы выбяруся ў Менск, тады перадам асабіста.

Зь вялікай пашанай да Вас Ул. Дубоўка.

Пабачыцца ім аднак так і не давялося. У сьнежні 1975-га году, прадчуваючы сваю сьмерць, У. Дубоўка выслаў свайму менскаму адрасату развітальную паштоўку з найлепшымі пажаданьнямі на Новы год і "на многія, многія гады". У сакавіку 1976-га году паэта ня стала. Littera scripta manet.

***Юры Шальц, Варшава***

***На здымках: 1. Другі том "Гісторыі беларускай літаратурнай мовы". 2. Ліст У. Дубоўкі да А. Юрэвіч. 3. Др. Алена Юрэвіч з групаю студэнтаў філялягічнага факультэту пэдінстытута. Менск, 1983-ці год.***

Сакавік 75, Масква

Дарагая Алена Казімераўна!

Сардэчна віншую Вас з Жаночым днём 8 сакавіка. Ад душы жадаю Вам, каб здзейсьніліся ўсе Вашы творча-навуковыя задумы, каб добрае здароўе і шчасьце былі Вашымі нязьменнымі спадарожнікамі на жыцьцёвым шляху.

З пашанаю
Ул. Дубоўка



# 20-я ўгодкі беларускіх радыёпраграмаў у Пэрце, Аўстралія



Беларускім радыёперадачам у горадзе Пэрце ў Заходняй Аўстраліі 5-га сакавіка сёлета споўнілася 20 гадоў. Сёньня ня буду апісваць, як гэта адбывалася, хто браў удзел у іх арганізаваньні, хто дапамагаў, чым і як, бо гэта я зрабіў у артыкуле, які быў надрукаваны ў газэце "Беларус" № 440 за сьнежань 1996-га году. Зараз я засяроджуся толькі на фармаце праграмаў.

Прадстаўляецца яна для слухачоў пааангельску наступнымі словамі: "Гэта ёсьць радыёстанцыя 6 Э-Бэ-А эф-эм на частаце 95,3 Мгц. Добры дзень, шаноўныя слухачы! Сёньня ў праграме падаюцца весткі зь Беларусі, гісторыя, палітыка, эканоміка, біяграфіі выдатных асобаў - дзеячоў, навукоўцаў ды, наагул, кранаем пытаньні з усіх галінаў жыцьця беларускага народу ды весткі з жыцьця і дзейнасьці беларусаў у дыяспары." Чытаньне скрыптаў праходзіць зь перапынкамі, запоўненымі беларускай музыкай і песьнямі. А заканчваецца радыёпраграма так: "Наблізіўся час заканчэньня праграмы. Беларускія радыёперадачы з радыёстанцыі 6 Э-Бэ-А эф-эм на частаце 95,3 Мгц ідуць у эфір кожнае серады ад гадзіны 4-й да паловы на 5-ю папаўдні. У выкананьні праграмы бралі ўдзел: тэхнічны выканаўца Мік Блоняж, праграму падрыхтаваў і вёў Міхась Раецкі. Дзякуем за ўвагу! Бывайце здаровы!"

Ня раз нашыя праграмы ёсьць па-ангельску, але гэта бывае толькі тады, калі нешта паважнае адбылося ў Беларусі. У гэткі спосаб мы, жывучы далёка ад цэнтраў, дзе адбываюцца амаль усе важныя падзеі ў Аўстраліі (а гэтымі цэнтрамі зьяўляюцца Мэльбурн, Сыднэй і Брысбэн, г. зн. усходняя Аўстралія, ад якое мы жывём аддаленыя амаль на чатыры тысячы кілямэтраў), распаўсюджваем весткі пра Беларусь.

***М. Р.***



Вестki й Паведамленьні
нью ерскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня
Viestki j Paviedamlenni
Belarusan American Association, Inc.
166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае павуціньне: http://belam.cjb.net №5 (448)

# СПРАВАЗДАЧНА-ВЫБАРЧЫ СХОД У НЬЮ ЁРКУ

Чарговы сход нью ёрскага аддзелу БАЗА адбыўся 12-га красавіка. На пачатку старшыня аддзелу сп. Віталь Зайка пазнаёміў прысутных з падзеямі ў Беларусі, з імпрэзамі, якія заплянаваныя і тычацца жыцьця аддзелу, а таксама з інфармацыяй пра "Акт аб Дэмакратыі ў Беларусі - 2003".

Затым былі заслуханыя справаздачы й прайшлі выбары кіраўніцтва аддзелу. У сваёй справаздачы старшыня аддзелу назваў усё, што было зроблена ім за мінулы год і ў прыватнасьці адзначыў, што за гэты час ён атрымаў 31 заяву ад асобаў, якія выказалі жаданьне ўступіць у шэрагі сяброў аддзелу БАЗА.

Потым зрабіў фінансавую справаздачу скарбнік аддзелу сп. Валеры Дворнік. За справаздачны год прыбыткі перавысілі выдаткі на 32 даляры. Дзеля таго, што фінансавая справаздача не была своечасова прадстаўленая рэвізыйнай камісіі, пытаньне аб яе зацьверджаньні было перанесенае на наступны сход.

Затым адбылося высоўваньне кандыдатураў на пасаду старшыні аддзелу. Некалькі прапанаваных асобаў узялі самаадвод, і ў выніку адзіным кандыдатам застаўся сп. Віталь Зайка. Ён выступіў з праграмаю, якая складаецца з асноўных чатырох пунктаў: узмацненьне і каардынацыя намаганьняў адносна набыцьця Беларускага дому; пашырэньне і паглыбленьне салідарнасьці й таварыскіх адносінаў паміж сябрамі арганізацыі; лепшае інфармаваньне пра арганізацыю сярод новых эмігрантаў і прыцягненьне новых сяброў; навязаньне больш трывалых і разнастайных кантактаў з прадстаўнікамі амэрыканскіх уладаў, з сродкамі масавай інфармацыі.

Па выніках адкрытага галасаваньня сп. Зайка быў аднагалосна пераабраны на пасаду старшыні нью ёрскага аддзелу БАЗА. Ён прапанаваў сьпіс кандыдатаў ва ўправу аддзелу, і гэты сьпіс галасаваньнем быў зацьверджаны сходам.



*Старшыня нью ёрскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня Віталь Зайка.*

Затым з справаздачаю аб дзейнасьці Галоўнай управы БАЗА выступіў сп. Антон Шукелойць. Ён адзначыў, што апошнім часам яго закідваюць пытаньнямі пра тое, што робіць Галоўная ўправа, а таксама прапановамі дапамогі, і таму ён чуецца забавязаным адказаць на гэта. Сп. Шукелойць даў агляд сваёй дзейнасьці й распавёў пра справы ў іншых аддзелах БАЗА. Галоўнаю мэтаю арганізацыі на сёньня ён назваў максымальна шырокае далучэньне новай эміграцыі да беларускай грамады ў Амэрыцы, і Галоўная ўправа працуе ў гэтым кірунку. Так, сп. Шукелойць паведаміў пра падрыхтоўку стварэньня новага аддзелу БАЗА ў Паўночнай Каліфорніі, які арганізуецца з ініцыятывы групы маладых людзей у Сан Францыска і ваколіцах. Плянуецца таксама стварыць аддзел БАЗА ў Пэнсыльвэніі. Сп. Шукелойць адказаў на пытаньні пра Кангрэс БАЗА і справаздачнасьць Галоўнай управы.

Сп. Вячка Станкевіч паінфармаваў прысутных пра кампанію ў падтрымку "Акту аб Дэмакратыі ў Беларусі-2003", адзначыў, што на дадзены момант яго падтрымалі ў Кангрэсе ЗША 10 кангрэсмэнаў і 5 сэнатараў. Намаганьні па кантактаваньні мясцовых кангрэсмэнаў і сэнатараў мусяць працягвацца, як пісьмова, гэтак і праз тэлефон. Усе прысутныя, хто яшчэ не скантактаваўся са сваімі прадстаўнікамі, маглі напісаць да іх, ужываючы тэксты лістоў, падрыхтаваных сп. Станкевічам. Былі таксама выкладзеныя наступныя крокі ў справе падтрымкі Акту.

Затым прысутныя мелі магчымасьць пазнаёміцца з гасьцямі аддзелу, а потым пагутарыць пасьля сходу зь сябрамі й знаёмымі пры шчодрым стале з пачастункамі.

**Віталь ЗАЙКА**

## 25 САКАВІКА Ў КАНАДЗЕ

Заканчэньне з бач. 4

Міхася Рыкава (гітара) і Ўлады Шамецька (скрыпка). Іх папуры зь беларускіх песьняў кранула слухачоў да сьлёз.

Наш гурт ужо другі раз з гонарам і задавальненьнем выступае ў атаўскім City Hall: выступы праходзяць проста ў файе, а там, па-першае, цудоўная акустыка (якраз для загукальных песьняў), па-другое, да нас далучаюцца мінакі й, такім чынам, мы маем магчымасьць рэпрэзэнтаваць нашую нацыянальную спадчыну іншым канадыйцам. Дарэчы, я колькі разоў размаўляла з канадыйцамі, якія ўпершыню слухалі беларускую музыку і сьпевы: яны атрымоўваюць лёгкі шок, для іх гэта, сапраўды, экзотыка, але якая чаруе, ўражвае, вабіць. Кажуць, што гэта нешта абсалютова адметнае.

Нашая новая праграма прайшла на біс. Малайчыны й дзяўчаты, і хлопцы. Маёй сяброўцы Віялеце ёсьць чым ганарыцца. Вельмі радуе, што цяпер у гурце бальшыня - моладзь. Тое, зь якім імпэтам і адданасьцю яны ўсё больш захапляюцца ўдзелам у гурце. Для іх гэта і забава, і агульная справа, і пачуцьцё абуджэньня нечага дарагога і сьвятога. Магічныя нашыя старажытныя песьні: аднойчы іх пачуўшы, тым больш засьпяваўшы - ужо не забудзеш і не пакінеш.

І я, пахвалюся, таксама атрымала пэрсанальныя падзякі (значыць, не падвяла!). Словы, сказаныя перад першым выступам Вольгай Іпатавай, якая ўжо апякавалася мною: "А ты думай, што нясеш людзям радасьць," - надалі ўпэўненасьці й спакою: сапраўды, усе тут свае, і ўсе мы разам. Гэта ўсё нашае агульнае.

А закончыць свае хуткія нататкі хачу словамі з майго выступленьня: "Мы бачым вельмі



*Вольга Іпатава віншуе суайчыньнікаў з 25-м Сакавіка.*

сымбалічным, што сьвята незалежнасьці нашае Радзімы прыпадае менавіта на вясну - пару адраджэньня ўсяго жывога. А таму хочам паказаць вам частку песьняў з абраду загуканьня вясны. Гэтая традыцыя мела асаблівае важнае значэньне. Справа ў тым, што нашыя продкі шчыра верылі, што вясну трэба абавязкава загукаць, інакш яна так і ня прыйдзе. Яны гэтую справу на самацёк не папускалі. А для гэтага карысталіся цэлым арсэналам магічных сродкаў. Перш-наперш, трэба ўзяць ключы й замкнуць зіму, а вясну адамкнуць. Такім ключом ёсць гучная песьня - зь якою зьвяртаюцца да старэйшага родапачынальніка як да вышэйшай сілы прыроды. Таму што ўсе нашыя дзеяньні маюць быць багаслаўленыя нашамі продкамі.

...Скажыце каму зіма не абрыдла? ... І ўсе глядзім прагноз па тэлевізары: чакаем, хто калі нам вясну прынясе.

А вось нашыя продкі дакладна ведалі, што рабіць.

А трэба сабрацца ўсім гуртам на самай высокай гары й сьпяваць без упынку і так гучна, каб чуваць было ў суседняй вёсцы - на наступным "зборным пункце". Каб песьні чароўныя пераклікаліся, не спыняліся, луналі ад аднаго гурта да другога, ад Полацку да Берасьця, ад Мантрэалю да Атавы, ад Атавы да Таронта. Каб далёка ў паўднёвых краінах пачулі яе нашыя птушкі, што выбраліся ўжо ў дарогу. Каб ляцелі яны на гэтыя песьні, як на маякі, і не згубілі дарогу дамоў. А чаму гэта так важна? А таму, што менавіта яны нясуць ў дзюбах ключы ад вясны..."

Мы - заходнія і ўсходнія, праваслаўныя і каталікі, тутэйшыя і савецкія, старыя і новыя (на каго яшчэ там нас дзялілі ў гісторыі?..) - а ўсё беларусы, - давайце выйдзем усе разам на самую высокую гару і... загукайма!

**Ірына ВАРАБЕЙ, Таронта**

## Уплаты ў нью ёрскі аддзел БАЗА:

### Складкі:

| | | | |
|---|---|---|---|
| В. Бартуль | 30 | В. Дворнік | 30 |
| Ф. Бартуль | 30 | У. Кадала | 30 |
| К. Верабей | 30 | С. Капытка | 30 |
| М. Верабей | 30 | А. Орса-Романо | 30 |
| Н. Гаршкова | 30 | Т. Пініповіч | 30 |

### Ахвяраваньні на дзейнасьць аддзелу:

| | | | |
|---|---|---|---|
| В. Азярыха | 30 | У. Цераҳаў | 30 |
| Ю. Арцішэўская | 30 | А. Чыстабаеў | 30 |
| В. Лістоўскі | 30 | Н. Шашкель | 10 |
| Л. Маток | 30 | | |

### Ахвяраваньні на БелПом:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Др. У. Набагез | 100 | К. Верабей | 20 |
| А. Міцкевіч | 50 | А. Субота | 20 |
| М. Грэбень | 25 | | |

**Шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў аддзел дасылайце скарбніку на адрас:**
*Valeri Dvornik*
*172 Millspring Rd.*
*Manhasset, N.Y. 11030*
*Чэкі выпісвайце на* ***Belarusan American Association.***

**Ахвяраваньні на БелПом дасылайце на адрас:**
*A. Mickievic*
*90-16 54th Ave*
*Elmhurst, NY 11373*
*Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя* ***A. Mickievic***

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018

# ЗОРА ПРЫПАМІНАЕ...

З Натальляй Арсеньневай я першы раз спаткалася ў Менску ў 1942-м годзе, дадам, разьбітым-згарэлым Менску. Было мне тады 15 гадоў. Адбылося гэта ў памешканьні рэдакцыі газэтаў "Менская газэта" і "Голас вёскі". Прыйшла я туды, каб знайсьці нейкую працу. У 1942-м годзе я скончыла 7-ю клясу школы, а вучыцца далей магчымасьці не было. Школы былі толькі сямігодкі, вышэйшых клясаў немцы не дазвалялі. Тую-ж моладзь, што не вучылася і не працавала, немцы вывозілі ў Нямеччыну на прымусовыя працы. І вось у рэдакцыі гэтых беларускіх газэтаў мне і малодшаму сыну Натальлі Арсеньневай - Влодку - выкраілі нейкія працы. Мне было сказана падлічыць радкі на ганарары ў "Голасе вёскі", нешта падобнае рабіў і Влодзя. Мною адразу-ж заапекавалася спадарыня Арсеньнева, стала мяне называць "Зорачка", а я да яе як-бы прывязалася, вельмі паважала і палюбіла. За ёю я адчувала сябе больш упэўнена на працы, бо-ж, ведама, рэдакцыя была рухавым месцам, працу трэба было выконваць дакладна.

Прабыла, прапрацавала я ў рэдакцыі аж да сярэдзіны 1943-га году, калі немцы дазволілі школы з вышэйшымі клясамі - былі адчыненыя сэмінарыя і прагімназія, і я пайшла вучыцца ў сэмінарыю. У рэдакцыю я ўсё-ж заскоквала, часта бачылася з Натальляю Арсеньневай далей, апавядала пра сваё жыцьцё-навуку-дзейнасьць. Кароткі час я была вельмі блізка з Натальляю Арсеньневай, калі мы эвакуяваліся зь Менску ў 1944-м годзе, мы ехалі ў адным таварным вагоне праз Польшчу ў Нямеччыну.

Наступнае нашае спатканьне адбылося ўжо ў паваеннай Нямеччыне ў горадзе Рэгенсбургу напрыканцы 1945-га году. У Рэгенсбургу арганізаваўся беларускі лягер перамешчаных асобаў, дзе пражывала Натальля Арсеньнева зь сям'ёю, і куды я з бацькамі прыехала, каб прадаўжаць перарваную навуку, бо ў Рэгенсбургу адчынілася беларуская гімназія імя Янкі Купалы. Натальля Арсеньнева выкладала ў нас французкую мову. Яна яе ведала выдатна, а вось нам даводзілася мець дачыненьне з французкаю моваю ўпершыню! Дык шмат ёй давялося з намі папрацаваць, каб закласьці асновы гэтае мовы. Была Натальля Арсеньнева настаўніцаю вельмі цярплівою, справядлівою і добраю. Мову мы неяк пачыналі ўсьведамляць! І трэба-ж: у французкай мове мы пазьней здабывалі вышэйшую асьвету і ці раз успаміналі вельмі цёплымі словамі настаўніцу, якая нам упершыню тую мову падала - Натальлю Арсеньневу.

Праз увесь час побыту ў гімназіі мне з Натальляй Арсеньневай даводзілася быць у кантакце - то тое, то іншае грамадзкае, а я-ж зь ёю адчувала сябе вельмі ўпэўнена. І з таго перыяду 1946-47 гадоў у мяне ў памяці застаўся адзін вельмі прыемны ўспамін, калі Натальля Арсеньнева мне вельмі дапамагла ўлетку 1946-га году. Тады беларускі лягер з гораду Рэгенсбургу перавезьлі ў вёсачку Міхельсдорф каля гораду Кам. У тым часе ў лягеры былі вельмі дзейныя і актыўныя беларускія скаўты. Кіраўніцтва скаўтаў было поўнасьцю хлапецкае, хоць дзяўчатаў у скаўтах было, бадай, болей за палову. Відавочна, усе праграмы, як-бы дастасоўваліся да хлапцоў. Мне і маім бліжэйшым сяброўкам, кіраўнічкам у скаўтынгу, гэткая сытуацыя была ня вельмі да спадобы, і мы вырашылі ад хлапечага скаўтынгу аддзяліцца, заснаваць сваю скаўцкую адзінку. Тым больш, што статут арганізацыі прадугледжваў асобны дзявочы беларускі скаўтынг. Відавочна, што аддзяліцца мы маглі адразу, але трэба было выканаць усе статутовыя вымогі: знайсьці апекуна, даць структуру адзінкі. І вось у тым мамэнце я пайшла да спадарыні Арсеньневай, каб яна нам дапамагла. Шчасьцю майму не было веры, калі Натальля Арсеньнева згадзілася быць і нашаю апекункаю, і дапамагчы ў цырымоніі аддзяленьня ды, нават, яна нам тады напісала дзявочы скаўцкі гімн:

Наш Першы сьцяг, наш Сьцяг дзявочы,
Адважна крочаць у жыцьцё...
(далей словы ўжо не прыпамінаю)

Супрацоўніцтва нашае на ніве скаўцкай было вельмі памыснае. Натальля Арсеньнева нам шмат дапамагала: пісала і ставіла пастаноўкі, дапамагала рыхтаваць кіраўнічак, як апякунка Дзявочага Сьцягу. Яна выступала перад лягернаю адміністрацыяй - дапамагала здабыць нам уніформу, атрымоўвала дазволы на паездкі ў іншыя мясцовасьці, каб рэпрэзэнтаваць беларускіх скаўтаў. Бясспрэчна, яна была нам сапраўднаю апекункаю.

Далейшае нашае супрацоўніцтва сягае ў пазьнейшы перыяд, калі я, здабыўшы вышэйшую асьвету, заснаваўшы сям'ю, пасялілася каля Нью ¨рку. Дарэчы, на маё вясельле Натальля Арсеньнева падаравала гадзіньнік у выглядзе каміна, вельмі густоўны, масыўны. І гэты гадзіньнік "ідзе" і сёньня спраўна і дакладна, ды ў маёй хаце заўсёды на пачэсным месцы!

Нашае супрацоўніцтва ішло галоўным чынам па лініі БІНіМу, беларускіх друкаў, газэты "Беларус". Калі ў пачатку 70-х гадоў БІНіМ пастанавіў выдаць том твораў Натальлі Арсеньневай "Між берагамі", распачынаючы гэтым сэрыю "Беларускія паэты й пісьменьнікі на эміграцыі", я ўзялася ўкласьці бібліяграфію твораў паэткі ды працаў аб ёй. Тады-ж я перачытала, дый ці раз, ёйныя ўсе творы, зразумела, якая здольная працавітая і ўзьнёслая была яна. Як шмат яна дала нашай літаратуры. Ды ня толькі літаратуры. Яна была і плённаю журналісткаю, напісала выдатныя мэмуары, зрабіла гэтак шмат у грамадзкім жыцьці! І таму я з асаблівую энэргіяй расшуквала ёйны пераклад "Песьні пра зубра", які, дзеля перадчасае хваробы др. Вітаўта Тумаша, быў "згубіўся", і была вельмі радая, пазваніла адразу паэтцы, калі той пераклад быў знойдзены і хутка выдрукаваны.

Безумоўна, ейная воддаль апошнімі гадамі, жыла Натальля Арсеньнева ў сына Влодака ў горадзе Рочэстэры, не спрыялі жывучасьці кантактаў, але, тым ня менш, мы часам сустракаліся, успаміналі, плянавалі далейшае. Нягледзячы на воддаль, мы адчувалі сябе блізка. І было для мяне і майго мужа Вітаўта (ён таксама мае свае ўспаміны пра Натальлю Арсеньневу) ударам, калі 27-га жніўня 1997-га году тэлефонным званком нам паведамілі, што Натальлі Арсеньневай больш няма з намі на гэтым сьвеце. Мы адразу селі ў машыну і паехалі да Влодзя. І, прызнацца, едучы, я як-бы трохі спадзявалася, заўсёднага вітаньня "Зорачка", калі сустрэнуся зь ёю, але гэтага ня сталася. І тым ня менш я адчувала сябе задаволенай, што была пры Натальлі Арсеньневай, калі ейная дамавіна хавалася, а ёйны "Магутны Божа" заставаўся і нам, і пакаленьням на вякі вечныя.

**Зора КІПЕЛЬ**

# Н. АРСЕНЬНЕВА

## ў Беларускай рэдакцыі Радыё "Свабода" ў Нью-Ёрку (1964-67 гг.)

Калі я перабраўся зь Мюнхэну ў Нью Ёрк у сакавіку 1957-га году, радыёстанцыя "Вызваленьне" (перайменаваная ў "Свабоду" ў травені 1959-га году) толькі пачынала шукаць у Нью Ёрку вольных супрацоўнікаў для Беларускай рэдакцыі ў Мюнхэне. На трэці дзень па прыезьдзе я такім супрацоўнікам стаўся - даволі неспадзявана: трэба было некаму напісаць рэпартаж пра сьвяткаваньне ў Нью Ёрку ўгодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Амэрыканскі Камітэт Вызваленьня ад Бальшавізму, пад эгідаю якога працавала радыёстанцыя, зьвярнуўся быў да Пётры Конюха, які жыў тады ў Нью Ёрку, з прапановаю напісаць такі рэпартаж. Конюх-жа, мой знаёмы яшчэ з часоў майго студэнцтва ў Бэльгіі, зь вялікаю ахвотаю перадаў гэтую справу мне. Рэпартаж той стаўся першым крокам да майго вольнага супрацоўніцтва з той самай радыёстанцыяй, зь якой я расквітаўся пасьля двух з паловаю гадоў працы ў Мюнхэне. Да канца 1963-га году я быў адзіным штатным працаўніком Беларускай рэдакцыі "Вызваленьня\Свабоды" ў Нью ¨рку. У Амэрыканскім Камітэце Вызваленьня працаваў на штаце, прыйшоўшы крыху пазьней за мяне, таксама Антон Адамовіч, але як супрацоўнік выдаванае Камітэтам газэты "Наше общее дело". Адамовіч рэдагаваў адначасна, наколькі яму дазваляў час у "Нашем общем деле", скрыпты расейскіх і беларускіх радыёперадачаў.



*Натальля Арсеньнева з мужам Францам Кушалем. 1960-я гады.*

Другою штатнаю адзінкаю ў нью ёркаўскай беларускай рэдакцыі РС сталася на самым пачатку 1964-га году Натальля Арсеньнева. Тады я ўжо быў намесьнікам загадчыка Беларускага, Украінскага й Турка-Каўказскага Аддзелу РС у Нью Ерку; прыбыло крыху абавязкаў, і Камітэт згадзіўся ўзяць яе на працу. Яшчэ да пачатку свае сталае працы Арсеньнева брала ўдзел у свабодаўскіх радыёперадачах - выступіла першаю ў сэрыі "Беларускія эміграцыйныя пісьменьнікі перад мікрафонам" (эфір 7-га чэрвеня 1963-га году).

Арсеньнева прабыла ў штаце РС да жнівеня 1967-га году. Займалася рознымі справамі, зьвязанымі з рыхтаваньнем радыёперадачаў. Гэта была часткава журналістычная й рэдактарская, а часткава сакратарская праца.

З РС супрацоўнічалі тады ў Нью Ерку ў якасьці вольных аўтараў Вітаўт Кіпель, Ізыдар Гуткоўскі, Станіслаў Станкевіч, Архіяпіскап Васіль; начытвалі матэрыялы перад мікрафонам Тамара Стагановіч-Кольба, Антон Адамовіч, Зора Кіпель. Коратка затрымаўся ў якасьці сталага працаўніка РС, Уладзімер Дудзіцкі (1960-62 гады) пасьля свайго рэдактарства ў Беларускай сэкцыі РС у Мюнхэне.

Частымі гасьцямі ў Беларускай рэдакцыі былі Вітаўт Тумаш, Антон Шукелойць, Янка Юхнавец, Гіпаліт Паланевіч ды наведнікі здалёк - беларусы з Канады, Аўстраліі, Аргентыны, Англіі й іншых краінаў. РС мела тымі гадамі свой офіс на 42-й вуліцы каля 5-й авэню паўкварталу ад Нью Еркаўскай Публічнай Бібліятэкі.

З прыходам на працу Натальлі Арсеньневай удзел ньюёркаўскай рэдакцыі ў беларускіх радыёперадачах РС узрос. У сваім лісьце да кіраўніцтва РС (27.IУ.1964) я пісаў: "Спадарыня Натальля Кушаль... выявілася вельмі вартаснай супрацоўніцай у нашых праграмах зь ейнымі шматбаковымі здольнасьцямі пісаньня. Як вынік укладу сп-ні Кушаль, рыхтаваньне беларускіх праграмаў у Нью ¨рку значна паскорылася ды забясьпечыла шырэйшы тэматычны абсяг".

Арсеньнева выконвала на месцы працы й грамадзкія патрэбы: набівала на машынцы паведамленьні пра паседжаньні й рэфэраты Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, мэмарандумы Рады БНР, запросіны на мерапрыемствы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, матэрыялы да друку ў газэце "Беларус", часапісах "Беларуская Моладзь", "Голас Царквы". Беларуская рэдакцыя РС была ня толькі месцам сустрэчаў, але й свайго роду "бюро заказаў". І Арсеньнева, і Адамовіч, і я - штатныя працаўнікі Амэрыканскага Камітэту й РС - былі сябрамі ўправаў беларускіх арганізацыяў у Нью Ерку, а таксама сябрамі Рады БНР.

Калі ўвесну 1967-га году, у выніку некаторых непаразуменьняў паміж г. зв. Парыжскім Блёкам і Амэрыканскім Камітэтам Вызваленьня ад Бальшавізму была выказаная пагроза з боку Рады БНР адклікаць з РС сваіх працаўнікоў, я пісаў у лісьце да Старшыні Рады БНР Міколы Абрамчыка (7.IУ.67): "Вы мусіце ведаць, аднак, што пры нашым адыходзе спыніцца ня толькі радыёвая наша работа тут. Гэта пацягне за сабою шмат больш. Бо пры Камітэце робіцца куды больш, чымся беларускія радыёвыя праграмы. Мы выкарыстоўваем тут - неафіцыйна - і час, і некаторыя матэрыяльныя магчымасьці дзеля шырэйшае беларускае працы - выдаваньня газэты "Беларус", друкаваньня розных мэмарандумаў і камунікатаў, інстытуцкага 'Абежніка', рэзалюцыяў, пашырэньня інфармацыі пра Беларусь у палітычных колах ЗША, нават рассыланьня магнітафонных істужак на розныя сьвяткаваньні й урачыстасьці па беларускіх асяродках".

У 1967-м годзе сям'ю Кушаляў напаткала вялікае няшчасьце - памерла нявестка, жонка іхнага адзінага сына Ўладзімера, які жыў на поўначы штату Нью Ерк у горадзе Рочэстэры. Бацькам давялося йсьці на дапамогу сыну.

У лісьце да галоўнага рэдактара Беларускай праграмы ў Мюнхэне Ўладзімера Цьвіркі я пісаў (12.У.67): "Сп-ня Кушаль адыходзіць ад працы ў канцы ліпеня ці пачатку жніўня. Пасьля сьмерці Тусі ў Влодка не засталося нікога для апекі двума дзяцьмі (адаптаванымі), апрача ягонае маці. Кушалём выяжджаць зь Нью Ерку неахвота, але абставіны змушаюць. Словам, паўстае пытаньне, каго на месца Кушалёхі. Ня ведаю, як яно развяжацца, але цяпер ужо ясна, што яе будзе цяжка замяніць. Гэта значыць, і некаторыя праграмы спыніцца. Я маю наўвеце тут перш-наперш "Галасы маладой Беларусі", якую мы нядаўна пачалі. На варштаце цяпер другая перадача з гэтае сэрыі".

Натальля Арсеньнева пакінула працу ў Беларускай рэдакцыі РС 4-га жнівеня 1967-га году. На ейнае месца спачатку плянавалі ўзяць з Канады Кастуся Акулу

*Заканчэньне на бач. 9*

## Я. ЗАПРУДНІК ПРА Н. АРСЕНЬНЕВУ

*Заканчэньне з бач. 8*

або Алеся Грыцука. Але дзеля розных прычынаў гэтага не адбылося. Я яшчэ ня трацію надзеі, што з Арсеньневай можна будзе неяк наладзіць супрацоўніцтва на адлегласьці. Зь ліста да Цьвіркі (5.УІІ.67): "Арсеньнева, як ведаеш, адыходзіць ад працы й выяжджае зь Нью Ерку. Буду прабаваць дагаварыцца зь ёй на супрацоўніцтва паштовую дарогаю. Й давядзецца выпісаць адно асноўныя літаратурна-мастацкія публікацыі й магчыма, што яна здолее весьці далей, скажам, "Галасы Маладой Беларусі" ці мо й што-небудзь іншае".

Кушалі выехалі зь у Рочэстэр 6-га жніўня 1967-га году. Адбылося разьвітаньне, на якое сабралася 32 асобы нью ёркаўцаў. Колькі чалавек прыехала зь Нью Бранзьвіку. Выпіўкі й закускі было на ўсіх. У часе разьвітальных і пахвальных прамоваў білі пяруны й ліў лівень за адчыненымі вокнамі. Прырода як-бы падкрэсьлівала драму разьвітаньня.

На месца Натальлі Арсеньневай у Беларускай рэдакцыі РС прыйшла ейная блізкая сяброўка й выдатная працаўніца сп-ня Яніна Каханоўская.

На шляху далейшага супрацоўніцтва з Арсеньневай паўставалі розныя тэхнічныя перашкоды. У кастрычніку 1967-га году я пісаў ёй у Рочэстэр: "З "Галасамі маладой Беларусі" давядзецца тым часам устрымацца, бо сэрыя гэтая нязвычайна часаёмкая з гледзішча "продакшэн", і я адзін тут не спраўлюся зь ёю пры ўсіх іншых камплікацыях. Я прасіў-бы Вас затое рабіць нам раз на месяц агляды беларускага жыцьця ў Польшчы - у сэрыю 'Беларусы ў шырокім сьвеце'. Пасылаю Вам №№ 32-43 беластоцкае "Ніва". Матэрыялу ў іх будзе ўдосталь. Калі-б на аснове гэтага матэрыялу (плюс бюлетэнь "Навіны зь Беларусі") у Вас зрадзілася нейкая іншая тэма на скрыпт, думаю, што час ад часу Вы маглі-б напісаць яго.

"У нас із сп-няй Каханоўскай супрацоўніцтва йдзе вельмі добра, і мы із сп. Адамовічам удзячныя Вам за рэкамэндацыю яе сюды на працу. Нашая мэта - змацаваць яе тут настала, і будзем рабіць усё магчымае, каб гэтага дасягнуць.

"Ваш адыход запавольніў тэмп працы ў нью ёркаўскім аддзеле рэдакцыі, шмат добрых тэмаў не выкарыстоўваецца. Цешым сябе надзеяй, што хоць часткава Вы здолееце дасылаць нам поштай".

Нажаль, супрацоўніцтва не замацавалася. Неспрыяльная рэчаіснасьць наклала свае абмежаньні. Але сувязь - тэлефанічная, паштовая - трывала далей, бо адлегласьць не зьмяніла супольнасьці паглядаў, перакананьняў і жаданьняў.

*Янка ЗАПРУДНІК*



*Натальля Арсеньнева зь беларускай моладзьдзю. 1970-я гады.*

## ЗНАЁМСТВА, СУПРАЦОЎНІЦТВА З НАТАЛЬЛЯЙ АРСЕНЬНЕВАЙ...

Маё "знаёмства" з Натальляй Арсеньневай сягае ў ваенны Менск. Год 1942-гі, парад дажынкаў, дзе мне, вучню школы, удзельніку параду, здалёк паказалі, вунь там беларуская паэтка, зь вершамі якой мы пачыналі знаёміцца ў школе. Пазьней, зноў здалёк, Натальлю Арсеньневу мне даводзілася бачыць у менскім тэатры на розных спэктаклях, дакладах аб беларускай культуры. Тады паэтку бачыў толькі здалёк, а бліжэй я яе хіба разглядзеў у часе жалобнае працэсіі, калі хавалі юнакоў разам зь ейным сынам, забітых выбухам міны ў гарадзкім тэатры.

З творчасьцю Натальлі Арсеньневай мы зблізіліся, пазнавалі ў школе, ейныя песьні сьпявалі амаль штодня, творчасьць ейная мне і маім аднагодкам вельмі падабалася, яна была іншая, несавецкая, дух вершаў паэткі нам быў "па-душы".

Супрацоўніцтва-ж з Натальляй Арсеньневай, як з старэйшым грамадзкім дзеячом, пачалося ад восені 1945-га году, калі я і сотні маіх сяброў заняліся арганізацыяй беларускага скаўтынгу ў паваенкай Заходняй Нямеччыне. Трэба сказаць, што моладзі ў той час у Нямеччыне было шмат, і арганізацыя скаўтаў пачалася амаль адразу, як толькі стварылася беларуская селішча ў пасёлку Ганггофэр Зыдлюнг у горадзе Рэгенсбургу. Арганізаваць моладзь было лягчэй чым іншыя арганізацыі, бо ўнраўскія ўлады мелі адміністратараў былых скаўтаў, а міжнароднае скаўцкае бюро клапацілася, каб маладое пакаленьне, якое перажыло вайну, увайшло ў міжнародныя арганізацыйныя структуры. Дапамагалі гэтаму асабліва скаўты Латвіі й Эстоніі, у якіх яшчэ зь перадваенных часоў былі выдатныя дачыненьні зь міжнародным скаўцкім рухам. У гэткіх умовах у Рэгенсбургу паўстаў беларускі скаўцкі зьвяз імя К. Каліноўскага. Арганізатарамі-кіраўнікамі таго беларускага скаўтынгу былі Сьцяпан Кірылік, Аляксандар Сасукевіч, Палікарп Манькоў, Алесь Бута, Дзьмітра Сямёнаў, а малодшыя Вітаўт Кіпель, Юзя Брэчка (Найдзюк), Зора Савёнак (Кіпель), Туся Шчаглова (Кушэль) і шмат іншых, прозьвішчы якіх пазабываліся!

І вось у гэтым часе Натальля Арсеньнева беларускай моладзі ладна дапамагала. Для беларускай рэпрэзэнтацыі на міжнародных выступах патрэбныя былі скэчы, інсцэніроўкі, песьні. Яна, будучы ў добрых дачыненьнях з кампазытарам Міколам Куліковічам, забясьпечвала патрэбы моладзі ў культурніцкай дзейнасьці. Спрычынілася Натальля Арсеньнева і вельмі шмат у пастаноўцы "Беларускага Купальля", якое адбылося ў канцы чэрвеня 1946-га году у горадзе Рэгенсбургу. Аб тым "Купальлі" гаварыў увесь лягер (панад 6000 асобаў) ды былі аб пастаноўцы зацемкі ў амэрыканскім акупацыйным друку. Разам з праф. А. Адамовічам давала шэраг парадаў Натальля Арсеньнева і ў друку скаўцкае мэтадычнае літаратуры, і ў выданьні скаўцкага часапісу "Зважай".

Выдатна памагла Натальля Арсеньнева ў камплектаваньні праграмы беларускай культуры ў часе першага курсу скаўцкіх кіраўнікоў у сэзоне 1946-га году, гэтак і ў падрыхтоўцы літаратурных выступаў на І-м і ІІ-м скаўцкіх зьездах. Бясспрэчна, Натальля Арсеньнева разам з іншымі дзеячамі беларускага культурнага жыцьця на эміграцыі, Міколам Равенскім, Міколам Шчагловым, Антонам Адамовічам, былі выдатнымі асновамі-падмуркамі для далейшага развіцьця маладзёвых руxaў на эміграцыі.

Супрацоўніцтва з Натальляй Арсеньневай на глебе дзейнасьці Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва - гэта тэма асобная, вялікая і трывалая. Гэтае супрацоўніцтва працягвалася дзесяцігодзьдзі, і аб гэтым будзем гаварыць асобна.

*Вітаўт КІПЕЛЬ*

## АБ ДЗЯРЖАЎНЫМ ГІМНЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Слова "гімн" паходзіць ад грэцкага "гумнос", што азначае "сьвяточная песьнь". Ці новы дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь будзе сьвяточнай песьняй, пакідаю для ацэнкі музыказнаўцаў, літаратараў і гісторыкаў.

Кожны дзяржаўны гімн павінен быць дарагім і супольным усяму народу. Разам са сьцягам і сымболікай ён павінен лучыць усе нацыянальныя, можна сказаць, сьвятыя ідэалы й зьядноўваць народ. На вялікі жаль, уведзеная сымболіка і сьцяг у Беларусі не зьяднала народ, а расколалі. А як будзе з гімнам, і перад усяго з яго новымі словамі, пабачым у будучыні.

На дзяржаўны гімн было некалькі прапановаў, як "Магутны Божа...", "Пагоня" М. Багдановіча, "Мы выйдзем шчыльнымі радамі...", былы гімн БССР ды іншыя. Як можна было спадзявацца, першыя тры ў сёньняшняй Беларусі ня мелі шанцаў на выбар. За аснову ўзялі стары гмн БССР, гэта значыць, прынялі ягоную музыку, але са зьмененымі словамі.

Аўтар гэтага артыкула добра разумее, што ў Беларусі ёсьць людзі, якім не падабаецца гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі...". Але ў Беларусі ёсьць шмат людзей, якія нявінна пацярпелі ад камуністычнага рэжыму. І для іх музыка гімна БССР, нават са зьмененымі словамі, таксама непрымальная. Дык якім павінна было быць выйсьце? Найлепш было-б напісаць зусім новы гімн, з новаю музыкай і з новымі словамі. У Беларусі ёсьць здольныя кампазытары й добрыя паэты. Такі гімн быў-бы прыняты большасьцю, і адпала-б патрэба мяняць яго ў будучым, як гэта ўжо рабілі з Канстытуцыяй.

Музыку для гімну БССР напісаў Несьцер Сакалоўскі, а словы Міхась Клімковіч. У цяперашнім гімне музыка ёсьць, як ужо ўспомніў, Н. Сакалоўскага, а словы М. Клімковіча і У. Карызны.

Варта хаця-б коратка спыніцца на тэксьце новага гімну і параўнаць яго з тэкстам гімну БССР. У новым няма такіх пярлінаў як "братняя Русь", "імяні Леніна", "партыі слава", "мужнай сям'і", "шчасьця працоўных", "сьцяг камунізму" і г. д. Але ёсьць усё-ж такі шмат словаў, якія напамінаюць старыя савецкія часы. Вось некаторыя з іх: "братэрскі саюз", "разам з братамі", "дружба народаў", "сьцяг пераможны" і т. п.

У прыпеве новага гімну ёсьць словы "слаўся народаў братэрскі саюз". Дык аб якім саюзе, ды яшчэ братэрскім пішуць аўтары гімну? Гэта мае быць дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь, а ня нейкага незразумелага саюзу? У гімне БССР былі падобныя словы, а менавіта, "у братнім саюзе, у мужнай сям'і". Каб паказаць падабенства гімнаў БССР і РБ, прыводжу поўнасьцю пятую страфу абодвых гімнаў.

**Гімн БССР**

Дружба народаў - сіла народаў
К шчасьцю працоўных сонечны шлях,
Горда-ж узьвіся ў сьветлыя высі,
Сьцяг камунізму - радасьці сьцяг!

**Гімн Рэспублікі Беларусь**

Дружба народаў - сіла народаў -
Наш запаветны, сонечны шлях,
Горда-ж зьвіся ў ясныя высі,
Сьцяг пераможны - радасьці сьцяг!

Як відаць з пададзенага, абедзьве страфы вельмі падобныя. Зьмянілі толькі чатыры словы, якія я падкрэсьліў.

У старым і новым гімне ўспамінаюцца "дружба народаў". Дружба народаў у СССР была, а ў некаторых постсавецкіх краінах і па сягоньняшні дзень застаецца мітам. Якая была і ёсьць дружба паміж, скажам, расейцамі й чэчэнцамі, армянамі й азэрбайджанцамі, абхазамі й грузінамі? Гэты сьпіс далёка ня поўны.

А як-жа з дружбай народаў у Беларусі? Сяброўства, братэрства і дружба павінны быць абодвабаковымі. Беларусы жывуць і хочуць жыць у згодзе з усімі сваімі суседзямі. Але ці ўсе нашы суседзі паважаюць і шануюць беларусаў? Адказ просты: НЕ! Сярод нашых суседзяў ёсьць такія, якія высьмейваюць нашую мову ды нават ня хочуць прызнаваць нас як асобную нацыю, асобны народ. Дык дзе ёсьць тая мітычная дружба народаў, пра якую сьпяваецца ў гімне? Аб аднабаковай дружбе лепш маўчаць, каб менш з нас сьмяяліся. Трэба памятаць, што такая дружба ня ёсьць дружбаю ўвогуле.

Прашу таксама зьвярнуць увагу на замену словаў "сьцяг камунізму" на "сьцяг пераможны". На першы погляд усё выглядае добра, па-новаму. Але запраўды ня ёсьць добра, бо цяперашні "сьцяг пераможны" ня ёсьць нічым іншым як старым камуністычным сьцягам!

Такая замена словаў ня што іншае як эўфамізм - замена няёмкага слова на больш ёмкае ў цяперашніх абставінах. Але гэтыя замены ня зьменьваюць сапраўдных рэчаў.

*Міхась ШВЭДЗЮК*

# Бюро Грамадзянства і Іміграцыйных Паслугаў ЗША (BCIS),

якое раней называлася Дэпартамэнт Іміграцыі й Натуралізацыі (INS), пашырае кампутарызацыю сваіх паслугаў.

З 29-га травеня, Бюро Грамадзянства й Іміграцыйных Паслуг пачне прымаць да разгляду некаторыя віды петыцыяў і заяваў праз сусьветнае сеціва. Штогод гэтае бюро атрымлівае прыкладна 7 мільёнаў петыцыяў ад імігрантаў. Дагэтуль усе дакумэнты прымаліся толькі праз пошту. Шмат якія лісты губляліся недзе ў дарозе ці ў бюракратычных кабінетах. Але з пераводам бюро ў юрысдыкцыю Дэпартамэнта Ўнутранай Бясьпекі, многія працэдуры былі перагледжаныя, у тым ліку і працэдура падачы дакумэнтаў. Новая сыстэма дазваляе захоўваць інфармацыю, фатаздымкі, подпіс і адбіткі пальцаў хадайнікаў дыгітальна. Электронны працэс таксама дазваляе правяраць інфармацыю хутчэй за папяровую праверку. Гэта значыць, што і адказ на петыцыю можа прыйсьці хутчэй.

Сярод петыцыяў, якія Бюро плянуе прымаць праз сеціва ў травені пакуль дзьве - гэта Заява на дазвол на працу (Employment Authorization I-765) ды Заява на замену зялёнай карткі (Application for Replacement of Green Card I-90).

Гэты сьпіс будзе пашыраны ўвосень вось якімі дакумэнтамі:

1. Петыцыя на працу без іміграцыйнага статусу (Petition for Nonimmigrant Worker I-129)
2. Падарожны пашпарт (Application for Travel Document I-131)
3. Іміграцыйная петыцыя для замежнага работніка (Immigrant Petition for Alien Worker I-140)
4. Заява на падаўжэньне або зьмену неіміграцыйнага статусу (Application to Extend/Change Nonimmigrant Status I-539); гэтаю формаю часта карыстаюцца замежныя студэнты.

Поўны сьпіс заяваў будзе апублікаваны на стронцы www.bcis.gov

Электронная падача дакумэнтаў таксама дазволіць правяраць праз сеціва ў якой стадыі разгляду знаходзяцца індывідуальныя справы. Гэтая паслуга - вялікая палёгка і для Бюро, якое атрымлівае каля 30 тысяч тэлефанаваньняў і візытаў штодня, і для хадайнікаў, якія напрацягу гадзін чакаюць адказу па тэлефоне ці ў іміграцыйных офісах.

***Алеся СЁМУХА***

# "ЗЬВЯЗ БЕЛАРУСКІХ ПАЛІТЫЧНЫХ УЦЕКАЧОЎ У ПОЛЬШЧЫ"

"Зьвяз Беларускіх Палітычных Уцекачоў ў Польшчы", які аб'ядноўвае беларускіх эмігрантаў, пакінуўшых Радзіму ў сувязі з пераследаваньнямі з боку таталітарнага рэжыму дыктатара А. Лукашэнкі. Арганізацыя была створаная ў лютым 2001-га году і зарэгістраваная ў Гаспадарчым Судзе Беластоку.




Накірункамі дзейнасьці Зьвяза зьяўляецца юрыдычная, псыхалягічная, інфармацыйная дапамога асобам, якія зьвярнуліся да ўладаў Польшчы з просьбаю аб атрыманьні палітычнага прытулку. Але галоўнае накіраваньне - гэта аб'еднаньне эмігрантаў незалежна ад партыйнай прыналежнасьці з мэтаю працягу барацьбы з чалавеканенавісным рэжымам, пануючым на нашай Радзіме.

Падзеі апошняга часу ў Беларусі прывялі нас да высновы, што Зьвяз павінен у сваёй дзейнасьці надаць больш увагі таму, што робіцца на Бацькаўшчыне. У Польшчы, мы маем тое, чаго не хапае апазыцыйным грамадска-палітычным рухам і партыям у Беларусі - сапраўдную вольнасць слова, не абмежаваную дзяржаўнаю цэнзураю. Гэта азначае, што з-за мяжы мы можам больш эфэктыўна весьці інфармацыйную барацьбу з прарасейскім дыктатарскім рэжымам, карастаючыся моцнаю і эфэктыўнаю зброяй - свабодным словам.

Друкаваны орган Зьвязу - газэта "Эмігрант". Яна зарыентаваная на простых грамадзянаў Беларусі. Лічым, што толькі праўдзівай інфармацыяй магчыма абудзіць у людзях, амаль што зламаны, дух пратэсту і супрацьдзеяньне рэжыму. На сёньняшні дзень распаўсюджваньне газэты ў Беларусі забаронена афіцыйнымі беларускімі ўладамі, паколькі "наносіць шкоду нацыянальным інтарэсам Рэспублікі Беларусь". Але, не гледзячы на забарону, "Эмігрант" трапляе рознымі шляхамі ў Беларусь да сваіх чытачоў.

Пры дапамозе Цэнтру Грамадзкай Адукацыі "Польшча-Беларусь" у Беластоку было надрукавана некалькі нумароў газэты "Эмігрант", на сэрвэры Цэнтру разьмешчаная вэбстаронка Зьвязу: www.emigrant.bialorus.pl

Як неабходны элемент палітычнай барацьбы, Зьвяз арганізуе і прымае ўдзел у палітычных акцыях, скіраваных супраць сёньняшніх уладаў Беларусі. У 17-ю гадавіну аварыі на Чарнобыльскай АЭС каля генэральнага консуляту Рэспублікі Беларусь у Беластоку Зьвязам праведзены пікет, галоўнаю мэтаю якога была спроба зьвярнуць увагу беларускіх уладаў на невырашаныя чарнобыльскія праблемы. Прадстаўнікам консуляту была ўручаная петыцыя ад Зьвязу з палітычнымі патрабаваннямі зьмены становішча ў сферы экалягічнай абароны жыхароў Беларусі.

Зьвяз Беларускіх Палітычных Уцекачоў у Польшчы цалкам далучаецца да зьместу "Акту аб дэмакратыі ў Беларусі - 2003" Кангрэсу ЗША.

Сваёю мэтаю на бліжэйшы час Зьвяз ставіць зрыў саюзнага рэфэрэндуму аб аб'еднаньні Беларусі й Расеі. На рэалізацыю гэтай мэты мы накіроўваем усе нашы намаганьні, бо лічым, што гэты рэфэрэндум не адпавядае сапраўдным жаданьням народу Беларусі.

***Старшыня Ясь АБАДОЎСКІ***

# З рэдакцыйнай пошты

Шаноўны спадар рэдактар,

Вялікі дзякуй за публікацыю майго артыкула. Спадзяюся, нашая супраца працягнецца.

Стабільнае выданьне "Беларуса" - вялікае дасягненьне. У зьвязку з газэтаю хачу выказаць колькі думак, але ня ў якасьці Вашага аўтара ці палітычнага актывіста. Як Вы, магчыма, ведаеце, маю пэўны практычны журналісцкі досьвед. Давялося мне весьці й навучальныя праграмы для маладых журналістаў, рэдагаваць кнігу "Дапаможнік беларускага журналіста". Далейшыя развагі - барані Божа, ня спроба павучаць, а зычлівае запрашэньне да разьвіцьця канцэпцыі газэты.

Мая выкладніцкая практыка паказала, што даволі цяжка пераадольваць спадчыну журналісцкі савецкай эпохі, а менавіта - выразна аддзяляць інфармацыю ад інтэрпрэтацыі, кроніку - ад камэнтара й аналізу. Такое адмежаваньне - абавязковае патрабаваньне да сапраўдных дэмакратычных мэдыяў; яна сьведчыць пра павагу да чытача, да ягонае здольнасьці рабіць высновы самому. Пазыцыя газэты выяўляецца ў іншым: у рэдакцыйным артыкуле, у тэкстах калюмністаў, у аналітычных матэрыялах. Навіны-ж мусяць быць бездакорна спраўджаныя з фактычнага гледзішча, а калі ў іх пераказваецца інфармацыя пра нейкі канфлікт, пажадана даваць меркаваньне абодвух бакоў. Тым больш гэта неабходна пры аналізе.

Што да рубрыкі навінаў зь Беларусі ў Вашай газэце, то лягічна было-б, каб у ёй зьяўляліся таксама навіны, падрыхтаваныя прафэсыйна: зь БелаПАН, "Свабоды", "Рацыі", БАРЦ, з партыйных і грамадзкіх рассылак.

Шаную Вашую ахвярную працу, разумеючы, што газэта робіцца на грамадзкіх асновах. Гэтаксама, як працуе тут, у Беларусі, абсалютная бальшыня беларускіх дзеячоў, у тым ліку й кіраўніцтва Фронту. У нашых агульных інтарэсах, у інтарэсах беларускае справы - рост прафэсыяналізму ва ўсім, што мы робім. Зычу "Беларусу" пашырэньня кола чытачоў, аўтараў, тэмаў, а таксама - дабрахвотных памочнікаў.

***Вінцук ВЯЧОРКА***

## НЕСУМЛЕННАЕ НАВУКАЗНАЎСТВА

Не хацелася мне распачынаць падобную тэму, бо ў краіне, дзе выдаецца газэта "Беларус", ёсьць нашмат больш дасьведчаных, у параўнаньні са мною, людзі з гэтае галіны ведаў. Але прачытаўшы ў апошнім нумары вашага выданьня рэцэнзію за подпісам Чытач, зразумеў, што тыя людзі, знаўцы літаратуры эміграцыі, відаць, ня хочуць пэцкацца, а мо й ня ведаюць праўды. То дазвольце мне.

Аўтар рэцэнзіі, гэтак добра выказаўшыся аб брашурцы Алеся Пашкевіча, прысьвечанай драматургіі на эміграцыі, пашкадаваў, што ня мае магчымасьці прачытаць ягоную-ж кнігу "Канцэпцыя нацыянальнага быцця ў беларускай літаратуры". Сапраўды, кніга выдрукаваная накладам у 100 асобнікаў. Але зроблена тое, відаць, наўмысна, каб менш людзей прачытала падобны "новы" досьлед. Бо справа ў тым, што згаданая кніга ня што іншае, як выдадзеная годам раней у Беластоку "Зваротныя дарогі" А. Пашкевіча, толькі са зьмененаю назваю працы, разьдзелаў ды дробнымі, нязначнымі зьменамі ў самой кнізе. Падобны падыход ня меў бы права быць названым нават "выданьнем другім, перапрацаваным і дапоўненым", ня тое што новым досьледам! Мо А. Пашкевіч разьлічваў, што людзі ня будуць здольнымі пакласьці побач беластоцкую кнігу ды кнігу з БДУ й параўнаць? Бо як інакш растлумачыць падобнае нахабства й несумленнасьць!?

У любой іншай краіне пасьля падобнага ўчынку прафэсара пазбавілі-б права выкладаць, кіраўнік грамадзкай арганізацыі - падаў бы у адстаўку, пісьменьнік - выбачаўся-б на старонках друку. У сёньняшняй Беларусі абставіны іншыя: Пашкевіч абараніў доктарскую дысэртацыю.

***Тарас ЖВІРБЛЯ, Менск***

# Ангельскі друк пра Беларусь

З нагоды саміту НАТО ў Празе ў лістападзе 2002-га году, на які А. Лукашэнку не дапусьцілі, брытанскія газэты шмат пісалі пра Беларусь. Усе артыкулы былі крытычныя і поўныя нараканьняў. Газэта "Guardian" ад 16.11.2002 у артыкуле пад назваю "Эўразьвяз забараняе ўезд у Эўропу для аўтарытарнага праваднра Беларусі", у якім гаварылася пра магчымасьць забароны ўезду ў Эўропу А. Лукашэнку і пяцідзесяці ягоным памочнікам. Як ведама, да таго часу забароне да ўезду у ЭЗ падлягалі Слабадан Мілошавіч і ягоныя службоўцы. Цяпер такая забарона датычыцца яшчэ і прэзыдэнта Зімбабве Робэрта Мугабэ. Думаю, усе ведаюць, чаму на гэтых асобаў накладзеныя такія абмежаваньні.

Такая забарона была-б пратэстам Лукашэнку за ягоны перасьлед апазыцыі й свабоды слова. Для АБСЭ гэта было-б адплатаю за выгнаньне зь Беларусі ейных наглядальнікаў, якія скрытыкавалі прэзыдэнцкія выбары ў 2001-м годзе і назвалі іх падробнымі.

Фінансавая газэта "Financial Times" ад 16.11.2002 пад загалоўкам "НАТО закрывае дзьверы для непажаданых гасьцей" пісала аб кіраўніках Беларусі й Украіны. На саміце ў Празе не хацелі бачыць ні аднаго, ні другога. Адносна А. Лукашэнкі чэскі міністар замежных справаў сказаў, што ягоная заяўка на візу будзе адкінутая, бо Беларусь не паважае правы чалавека, і прыезд А. Лукашэнкі на саміт будзе выкарыстаны ім для ўмацаваньня свайго становішча ў Беларусі. Справа прысутнасьці А. Лукашэнкі і Л. Кучмы на саміце была трохі скамплікаваная, бо яны мелі права там быць.

Яшчэ ў адной ангельскай газэце "The Times" ад 16.11.2002 было аж два артыкулы пра Беларусь. Першы апавядае пра намер Эўрапейскага Зьвязу забараніць беларускім урадоўцам уезд у Эўропу. А другі, названы "Сапраўдная падтрымка на радзіме для кішэннага Сталіна, які апынуўся ў нерэальным, скажоным сьвеце". Цэлы артыкул апісвае А. Лукашэнку і пералічвае ўсе ягоныя недахопы. Пералічу толькі некаторыя зь іх.

Аўтар артыкулу Роджэр Бойс ўспамінае двух беларускіх журналістаў, якія апынуліся за кратамі за напісаньне артыкулу, у якім спрабавалі разгадаць "таямніцу зьнікненьня апанэнтаў Лукашэнкі". Успамінаецца пра будаўніцтва дарогі праз месца пахаваньня ахвяраў сталінскіх рэпрэсыяў. Сп. Бойс не абмінае і "эскадронаў сьмерці", мэтаю якіх было "пазбыцца крытыкаў".

У артыкуле згадагая гісторыя з фільмам рэжысэра Ю. Хашчавацкага "Звычайны прэзыдэнт". Бедны Хашчавацкі шмат пацярпеў за гэты фільм: "адведалі" яго няпрошаныя маладыя людзі, якія паламалі яму нагу. Аўтар артыкула ня піша, ці знайшлі й пакаралі вінаватых таго бандыцкага нападу.

Сьпіс закідаў Лукашэнку досыць доўгі й прыкры, і ня хочацца тут яго поўнасьцю ўспамінаць і перакладаць на беларускую мову.

У канцы артыкула аўтар піша, што імыдж Лукашэнкі як "чалавека з народа" выпарыўся.

***Міхась ШВЭДЗЮК***

# ВЯЛІКДЗЕНЬ У ТАРОНЬЦЕ

Летась сьмерць забрала ў нас, таронцкае парафіі, Першага Ярарха БАПЦ, сьветлай памяці арх. Мікалая. Мяжа Канады, з прычыны вайны ў Іраку, адгарадзіла шлях нашых сьвятароў да нас са Злучаных Штатаў. Як сьвяткаваць Вялікдзень?

Згадзіўся дапамагчы нам сьвятар а. Аляксей Калюжны зь недалёкае ад нас парафіі, што ў Таронцы на Манінг авеню. Гэтая-ж парафія, якую "рускай" называюць, некалі была на вуліцы Глен Морыс. Беларусы, што пасяліліся тут на пачатку мінулага стагодзьдзя яе залажылі. Гэтак Канада нашых праваслаўных суродзічаў з акупаванае Масквою ці Варшаваю Бацькаўшчыны уключыла ў лік "рускіх".

Запрошаны намі а. Калюжны служыў усяночную ў Віндсары, а да нас зьявіўся ў сьвятыні Сьв. Кірылы Тураўскага ў нядзелю 27-га красавіка а гадзіне 10-й. Сабралася ладная грамада вернікаў. Ютраня і Сьв. Літургія трывалі тры гадзіны.

Пасьля асьвячэньня вялікодных дароў, абдымкаў і сьвяточных пажаданьняў у вялікай залі віталі й ушанавалі зорку беларускай гістарычнай прозы, выдатнай паэзіі, некалі старшыню Саюзу беларускіх пісьменьнікаў, спн. Вольгу Іпатаву. Ганаравалі яе далучэньнем у сябры найстарэйшае нашае арганізацыі ў Канадзе - Згуртаваньня Беларусаў Канады.

Вельмі прыгожа афармлены дакумэнт уручаны быў нашай дарагой госьці з падпісамі першага Старшыні Галоўнае Ўправы ЗБК Кастуся Акулы й цяперашняе Старшыні таронцкага аддзелу Надзеі Дробінай такога зьместу:

**Ганаровы Ліст**

*За неацэнны ўклад у разьвіцьцё беларускай літаратуры й самаадданую працу на карысьць беларускага народу надаць спн. Вользе Іпатавай тытул ганаровага сябры Згуртаваньня Беларусаў Канады.*

Вольга Іпатава, якую мы ўжо на ўрачыстым сьвяце ўгодкаў БНР 30-га сакавіка ахрысьцілі ЗОРКАЮ, шчыра дзякавала пасьля гучных воплескаў за такую ўзнагароду. Вядома-ж, ейны сын Руслан, прысутны на сьвяце, пасяліўся ў Таронце колькі гадоў раней. Мы-ж запрасілі заслужаную Зорку беларускай культуры наведаць нас і ў будучыні.

*К.*

# САКАВІК У СЫДНЭІ

У нядзелю 6-га красавіка беларусы Сыднэю і ваколіцаў сабраліся, каб адзначыць 85-я ўгодкі беларускай Дзяржаўнасьці. Урачыстасьць, як заўсёды, пачалася ў Гомбушскай праваслаўнай царкве. Пасьля сьвятой Літургіі а. Ігар Хлябіч адслужыў малебен за беларускі народ. Хор пад кіраўніцтвам маэстра Аўгена Падгайскага, падмацаваны пеўчымі зь іншых парафіяў, цудоўна выканаў "Магутны Божа".

Ад царквы да Беларускага Клюбу ў Файрфільд усяго 10 км, і заля там хутка напоўнілася народам. Адкрыў урачыстасьць Старшыня Клюбу Міхась Лужынскі. Прывітаўшы прысутных, ён у сваёй прамове пералічыў заслугі ўсіх былых Прэзыдэнтаў БНР і зачытаў Зварот да беларускага народу сёньняшняга Прэзыдэнта Івонкі Сурвіллы.

Дырэктар і дыктар беларускага радыё у Сыднэі сп. Вячаслаў Элькановіч зрабіў справаздачу з сакавіковых сьвяткаваньняў па ўсім сьвеце.

Др. Слава Лягенчанка пачуцьцёва прадэклямавала верш "Беларус", які яна памятае яшчэ зь дзяцінства.

Прысутнічаў на сьвяткаваньні генэральны консул Польшчы др. Тадэвуш Жылінскі, які ў сваёй вельмі прыязнай прамове выказаў спадзяваньне, што Беларусь хутка стане сапраўды незалежнаю дзяржаваю, у чым зацікаўленая ня толькі Польшча, але і ўся Заходняя Эўропа.

Прысутнічала на сьвяткаваньні госьця зь Менску Натальля Гардзіенка, гісторык, аўтар кнігі "Беларускія жанчыны 18-га стагодзьдзя". Яе наступнаю працаю будзе доктарская дысэртацыя на тэму "Беларускія жанчыны замежжа". Спн. Гардзіенка распавяла пра сучасны палітычны й эканамічны стан Беларусі.

Прамаўляў архітэктар Зьмітро Лімантаў, заклікаючы беларусаў актывізавацца ў культурным жыцьці, ладзячы выставы й іншыя імпрэзы.

Наступна гаспадынькі запрасілі на багаты й смачны абед. У добрай кампаніі час заўсёды ўцякае няўбачна. Нашыя сяброўкі Валя Спасывая і Паўля Залінская выдатна прапяялі дзьве ўкраінскія лірычныя песьні. Але-ж не было яшчэ бяседы, якая-б ня скончылася. На разьвітаньне ўсе абяцалі сустрэцца там-жа на Біткі (другі дзень Вялікадня), 28-га красавіка.

*Міхась ЛУЖЫНСКІ*

# ДЗЕЦІ ПРАЦЯГВАЮЦЬ ПРАЦУ БАЦЬКОЎ

У тым самым нумары амэрыканскае газэты паўночнае часткі штату Нью Джэрзі "Бэргэн Рэкард" за 16-га красавіка, дзе быў выдрукаваны інфармацыйны нэкралёг пра Зору Кіпель (дарэчы, Кіпелі пражылі ў гэтай акрузе панад 40 гадоў) у разьдзеле "Штатная адукацыя" было паведамленьне, што ў горадзе Гоўард быў выбраны ў дырэктары-адміністратары гарадзкога аддзелу асьветы д-р Юрка Кіпель. Выдатна. Дзеці пераймаюць грамадзкую працу бацькоў.

**ДА ВЕДАМА:**

**сьпіс ахвяраваньняў у памяць Зоры Кіпель на выдавецкі фонд БІНіМ ды асабліва на выданьне ангельска-беларускага слоўніка будзе пададзены ў наступным нумары "Беларуса".**

# НАС НЯ ЗНАЛІ Й НЕ ХАЦЕЛІ ПРЫЗНАЦЬ

Ужо ад часу Люблінскае Ўніі 1569-га году беларуская дзяржава - Вялікае Княства Літоўскае - апынулася пад пагрозаю палянізацыі й анэксыі. Беларускае пісьменьніцтва і школьніцтва заступала польская мова, а ў 1697-м годзе польскі сойм забараніў друкаваць кнігі на беларускай мове, ужываць яе ў дакумэнтах і грамадзкіх месцах. Прычына была такая: "Поневаж ензык рускі недостэмпны ест гэнюшові польскему, пшэто пісаж повінен не порусу, а попольску пісаць".

З апошнім падзелам Рэчы Паспалітай у 1795-м годзе ўся Беларусь аказалася пад Расеяй. Кацярына II, як і наступныя імпэратары, не прызнавала беларусаў за асобны народ, лічылі іх "рускімі", а іхнюю мову называлі "русским наречием". У тойжа час палякі называлі беларускую мову "польскім дыялектам".

Так было да рэвалюцыі 1905-га году, калі беларусы атрымалі дазвол на выданьне свае прэсы на беларускай мове, але не дазвол мець свае беларускія школы.

Пасьля заканчэньня Першай Сусьветнай вайны й устанаўленьня ў Расеі камуністычнай улады ў БССР ажывілася беларуская нацыянальная і культурная дзейнасьць. Але пачынаючы ад 1930-х гадоў пачынаецца перасьлед усяго беларускага, а яго навуковыя кадры часткова зьнішчаюцца фізычна, часткова высылаюцца на катаргу. У Беларусі праводзіцца сыстэматычная русыфікацыя, якая прадаўжалася да пачатку нямецка-савецкай вайны ў 1941-м годзе. А па вайне пачаўся яшчэ большы перасьлед беларускай нацыянальнай дзейнасьці.

Калі Беларусь сталася незалежнаю дзяржаваю ў 1991-м годзе, тады ўзьнікла надзея на аднаўленьне беларускае культуры й мовы як дзяржаўнай. Але, калі прэзыдэнтам стаў А. Лукашэнка, Беларусь вярнулася да старой русыфікатарскай палітыкі.

Варта згадаць, што амаль пасьля 150 гадоў была аднаўленая польская дзяржава, якая ў 1919-20-х гадох вяла вайну з камуністычнай Расеяй. У выніку гэтай вайны Беларусь была падзеленая Рыскім трактатам. У першых гадох існаваньня Польшчы на тэрыторыі Заходняй Беларусі існавалі беларускія школы й гімназіі, былі выбраныя свае паслы ў Польскі сойм. Але гэта доўга не трывала. За пару гадоў палякі пачалі рабіць перашкоды зь беларускімі школамі з часам іх пазакрывалі, не дапусьцілі беларускіх паслоў у сойм. Пачалася актыўная палянізацыя і наварочваньне праваслаўных у каталіцызм.

Другая Сусьветная вайна, якая вялася быццам у імя свабоды, незалежнасьці й справядлівасьці народаў сьвету, аказалася маною. Таксама створаная па вайне Арганізацыя Аб'еднаных Нацыяў, якая мела мэту сачыць за парадкам у сьвеце, шмат не змагла зрабіць. Сьвет быў падзелены, з аднаго боку камуністычная экспансыўная дыктатура, а з другога - заходняя дэмакратыя, якія паміж сабою змагаліся. Так было да 1991-га году.

З-за прыніжанага становішча беларусаў на працягу апошніх стагодзьдзяў, калі яны былі пазбаўленыя сваіх школаў, свайго культурнага жыцьця, іхняя псыхалёгія не захавала глыбокага пачуцьця да свайго паходжаньня, да свае гісторыі, калі на іхняй мове выдаваліся дзяржаўныя акты й размаўлялі польскія каралі.

Нашыя суседзі насьмяхаліся над беларусамі, а мову называлі хамскай, мужыцкай, прастай, а Беларусь лічылі за сваю зямлю. У часы Рэчы Паспалітай на мапе Эўропы на месцы Беларусі пісалася Польшча, а пазьней Расея. Як бачым, Беларусі не было. А калі не было такога краю, то не было і такога народу.

Так Польшча і Расея гандлявалі Беларусьсю, напісалі свае гісторыя, дзе беларусам не было месца. Гэтымі гісторыямі карысталіся замежныя ўнівэрсытэты, дзе часам былі іхныя прафэсары, і сьвет амаль ня ведаў пра Беларусь.

Прывяду некаторыя прыклады са свайго жыцьця. Калі, у час апошняе вайны трапіў я ў польскае войска ў Італіі, пры выпаўненьні фармуляра пісарчук пытае маю нацыянальнасьць. Я кажу - беларус, а ён мне кажа, што ў Польшчы такіх не было перад вайною. А я яму кажу, што перад вайною іх было блізка тры мільёны. А ён мне кажа, што аб іх ня чуў. Аднак мяне запісаў беларусам другі пісарчук.

Калі я знайшоўся ў адным з польскіх аддзелаў, то яго шэф паклікаў мяне ў канцэлярыю спраўдзіць эвідэнцыю. І тут на дзіва я ўбачыў, што нехта зрабіў мяне ня толькі палякам, але і каталікам. Я і тут сказаў, хто я ёсьць, і шэф спакойна закрэсьліў чырвоным алоўкам "паляка" і "каталіка", а зьверху напісаў "бялорусін" "праваслаўны".

Падобнае здарэньне меў я, калі прыехаў у Англію і быў здэмабілізаваны. Будучы ў пастарунку паліцыі, як і кожны чужынец, паліцыянт, чалавек старэйшых гадоў, спытаў маю нацыянальнасьць. Я адказаў - беларус. Паглядзеў ён на мяне і кажа: "Яшчэ цябе на сьвеце не было, як я вучыўся гісторыі, і аб Беларусі й беларусах ня чуў." Тады я спытаў яго, ці чуў ён, што адным зь сябраў-заснавальнікаў ААН была Беларусь. Тут ён крыху задумаўся, але мне нічога не сказаў. Аднак у дакумэнце напісаў ангельскае "W" з кропкаю і "Russian". Так што зрабіў ён мяне белым рускім, але не беларусам.

Быў гэта вынік таго шматвяковага ігнараваньня беларусаў. Але таксама нельга сказаць, што аб беларусаў зусім нічоеа не было ведама. У канцы XIX стагодзьдзя прафэсар Оксфардзскага ўнівэрсытэта В. Р. Морвілл у сваёй гісторыі "Poland" пісаў, што беларусы былі найбольш цывілізаваным народам, і на іхняй мове пісаліся дакумэнты й дзяржаўныя Статуты. Гэтыя Статуты былі прыкладам для палякаў і расейцаў. Асабліва апошнія карысталіся імі й шмат бралі ў свае "Уложения", а беларускую мову і беларусаў зьневажалі.

Асабліва ў час апошняй вайны шмат хто на Захадзе мог чуць пра Беларусь, бо на яе тэрыторыі праходзіла нямецка-савецкая вайна, і аб ёй шмат пісала прэса. А па вайне заходнія аўтары апісвалі гэтую вайну, узгадвалі Беларусь і беларусаў. Апошнімі гадамі было для мяне цікава і даволі дзіўна, як шмат ведаюць пра Беларусь заходнія аўтары, чаго я не спадзяваўся, бо раней у ангамоўных выданьнях пра Беларусь згадвалася вельмі мала. А было гэта таму, што тады яшчэ існавала каляніяльная сыстэма, і пісаць аб прыгнёце беларусаў не выпадала. Многія краіны мелі калёніі й не давалі свабоды іх жыхарам.

Аб беларусах Ангельшчыны ўлады ведалі. Па вайне былі заложаныя дзьве арганізацыі й Англа-Беларускае Таварыства. Беларусы Англіі прымалі ўдзел у міжнародных канфэрэнцыях, маніфэстацыях супраць камуністычнага рэжыму. І калі была "халодная вайна", то заходнія дзяржавы шукалі дапамогі сярод беларусаў.

Беларусы на Бацькаўшчыне не павінны пакладаць вялікія надзеі на беларускую эміграцыю, бо ніякая эміграцыя не зрабіла вырашаючага ўплыву на зьмену ураду і палітыкі ў сваіх краінах. Расейская эміграцыя пасьля Першай Сусьветнай вайны плыла на Захад на караблёх, плылі генэралы, афіцэры й маса інтэлігенцыі. Польская эміграцыя мела ў час апошняе вайны свой урад у Лёндане, мела сваё войска, але не змагла пасадзіць свой урад у Варшаве.

Як бачым, усё вырашае народ у краі. Эміграцыя можа спачуваць, падтрымліваць апазыцыю супраць дыктатуры матэрыяльна, як і некаторыя дзяржавы. Таму беларусам у краі трэба больш пакладаць надзеі на свае собскія сілы й весьці змаганьне за сваю дзяржаўную незалежнасьць да пераможнага канца.

*Юры ВЕСЯЛКОЎСКІ, Лёндан*

# КУПАЛЬЛЕ

**Дарагія сябры, давайце разам адзначым нашую прыгожую традыцыю Купальля і правядзём тры цудоўныя дні на прыродзе.**

**Калі:** 27- 29 чэрвеня 2003-га году.

**Дзе:** Рэзэрвацыя Ward Pound Ridge ў Cross River, NY

**Транспарт:** цягніком са станцыі Grand Central да прыпынку Katonah. Гэта 45 хвілін язды ад Мангэтану па галіне Harlem Line.

**Кошт:** **$25** за чалавека за дзьве ночы. Чэкі выпісвайце на ***Mr. & Mrs. Ryzy***. На чэку пазначце ***"Купальле"***. Вашыя замовы й аплату шліце, калі ласка, на адрас:
***Piotr & Lena Ryzy***
***20 Old Locust Ave***
***Courtland Manor, NY 10567***

**Што будзе:** купальскія песьні й танцы (будзем вітаць вашыя ідэі), пляценьне вянкоў і пусканьне па рачцы, спартовыя гульні, гатаваньне страваў (прыносьце ежу, грылі будуць).

**Кантакты:** **Лена** ці **Пётра Рыжы**, тэл. **(914) 734-8115**, **Ryzy2@aol.com** ці **LenaBelarus@aol.com**

Захапіце з сабою спальныя мяшкі, палаткі, ежу, напоі і т. п., а таксама дастаткова фотастужкі, каб хапіла на ўсе дні адпачынку.

Важна, каб арганізатары атрымалі Вашую замову да 15 траўня.

Каб зрабіць замову, запоўніце і дашліце купон, надрукаваны ніжэй.

**Вашае імя** ______________________

**Колькасьць людзей (разам зь дзецьмі)** ______________

**$25 за кожнага чалавека, усяго ўкладзена** ____________

**Ваш нумар тэлефона** ________________

**Ваш адрас** ______________________

**Ці трэба Вас забіраць з прыпынку цягніка?** __________

**Ці хочаце, каб Вам даслалі мапу з інструкцыяй, як лепш даехаць да парку на аўта?** __________

## ГІСТОРЫЯ ГАЗЭТЫ "БЕЛАРУС"

**20 верасьня 1950 году пабачыў сьвет першы нумар "Беларуса". З таго часу выданьне мянялася, мяняліся рэдактары, але газэта жыла. Пачаўшы шлях як канкурэнт і ў нечым апанэнт старэйшай на тры гады газэты "Бацькаўшчына", "Беларус" ня толькі вытрываў, але й стаўся тым выданьнем, вакол якога аб'ядналася ўся эміграцыя, незалежна ад месца пражываньня, палітычных, канфэсыйных ды мастацкіх паглядаў. Больш як 50-гадовая гісторыя газэты - гэта люстэрка эміграцыі, паваенная і цяперашней, летапіс зьдзяйсьненьняў і памылак, агульная нашая гісторыя.**

**БІНІМ з рэдакцыяй газэты распачынае збор матэрыялаў з мэтаю напісаньня кнігі пра гісторыю "Беларуса". Мы будзем удзячныя за дасланыя ўспаміны, дакумэнты, здымкі, за ўсё, што дапаможа напісаць гісторыю больш поўна ды аб'ектыўна.**

**Матэрыялы дасылайце, калі ласка, на адрас газэты або на адрас:**
***Liavon Yurevich, 204 Ave N, Brooklyn, NY 11230***

# ПАДПІСКА

## на выданьні зь Беларусі на 2-ю палову 2003-га году

**З дасылкаю зь Беларусі ў замежжа**

| | *Назва, выдавец, мова* | *Перыядыч. друку* | *Кошт, $* |
|---|---|---|---|
| Газэты: | **Наша Ніва,** прыватнае, беларуская | 4 на месяц | 60 |
| | **Наша Слова,** ТБМ, беларуская | 4 на месяц | 20 |
| | **Народная Воля,** прыват., бел., рас. | 20 на месяц | 100 |
| | **Новы час,** ТБМ, беларуская | 2 на месяц | 30 |
| | **Культура,** дзяржаўнае, беларуская | 4 на месяц | 60 |
| | **Літаратура і мастацтва,** дзярж., бел. | 4 на месяц | 60 |
| Часапісы: | **Arche,** прыватнае, беларуская | 3 на 6 месяцаў | 30 |
| | **Дзеяслоў,** прыватнае, беларуская | 3 на 6 месяцаў | 30 |

*Заўвага: газэты дасылаюцца авіяпоштаю, часапісы звычайнаю.*

**Для жыхароў Беларусі** (для сваякоў ці знаёмых)

| | | | |
|---|---|---|---|
| Газэты: | **Наша Ніва** | 4 на месяц | 10 |
| | **Наша Слова** | 4 на месяц | 5 |
| | **Народная Воля** | 20 на месяц | 20 |
| | **Новы час** | 2 на месяц | 10 |
| | **Культура** | 4 на месяц | 10 |
| | **Літаратура і мастацтва** | 4 на месяц | 10 |

***Падпіска працягнецца да 18-га чэрвеня 2003-га году.***

*Замовы й аплату дасылайце, калі ласка, загадзя на адрас:*

***Marat Klakotski, 5 West Court, Amityville, NY 11701***

# БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ й МАСТАЦТВА

## ЗВАРОТ ДА ГРАМАДЗТВА

**Высокашаноўнае спадарства!**

Гэтым Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва даводзіць да ведама, што рэдакцыйная праца над беларуска-ангельскім слоўнікам знаходзіцца ў апошняй стадыі перагладу/карэкты.

Слоўнік налічвае каля 60 000 лексычных адзінак (каля 1000 старонак), што робіць яго вызначальным у беларускім слоўніцтве.

Напярэдадзе цяпер - друк слоўніка. Паколькі мяркуецца вялікі тыраж слоўніка, каб шырока распаўсюдзіць яго ў Беларусі, відавочна, будуць і вялікія выдаткі на друк. Наклад плянуецца ў некалькі тысячаў, а друк, паводле пачатковых ашацункаў, будзе парадку некалькі дзесяткаў тысячаў даляраў. Выданьне слоўніка мяркуецца ажыцьцёвіць коштам падпіскі й ахвяраваньняў беларускай грамадзкасьці ды дапамогі беларускіх арганізацыяў.

Дадзены ліст-зварот да грамадзтва аб фінансавай дапамозе на друк-выданьне слоўніка. Відавочна, што ўсім зразумелая важнасьць гэтага выданьня ды інтэлектуальная трагедыя Бацькаўшчыны, якая да гэтага часу ня мае гэтак патрэбных вялікіх замежна-беларускіх слоўнікаў.

Да рэчы, сьпіс спонсараў і ахвярадаўцаў, як асобаў, гэтак і арганізацыяў-ахвяравальнікаў панад 250 даляраў будзе выдрукаваны ў адпаведным месцы ў слоўніку.

Дык у чародны раз Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва спадзяецца на грамадзкую шчодрасьць. Прысылайце, калі ласка, Вашыя ахвяраваньні на друк ангельска-беларускага слоўніка.

Ахвяраваньні на выдавецкі фонд Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва:

**Вольга Качан у памяць мужа Аркадзя Качана** **15 000 дал.**
**Міхась Лужынскі** **1 000 дал.**

*Управа БІНіМу*

Ахвяраваньні на выданьне слоўніка дасылайце на адрас:
***Belarusan Institute of Arts and Sciiences***
***1797 Buttonwood Ave***
***Toms River, NJ 08755 Attn: Vitaut Kipel***

***Газэта "БЕЛАРУС"***
*надрукуе кароткія аб'явы некамэрцыйнага характару, віншаваньні, спачуваньні ды інш. Наконт рэклямы, калі ласка, кантактуйце рэдакцыю.*

**НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА" АХВЯРАВАЛІ:**

| | |
|---|---|
| І. і В. Ільчук | 70 |
| В. Кажан | 60 |
| Л. Стагановіч | 60 |
| С. Будкевіч | 50 |
| В. Сітнік | 50 |
| Ю. Арцішэўская | 30 |
| С. Балкоўская | 30 |
| Ф. Бартуль | 30 |
| Б. Данілюк | 30 |
| Я. Каханаўская | 30 |
| В. Мароз | 30 |
| С. Навумчык | 30 |
| Т. Піліповіч | 30 |
| А. Скурко | 30 |
| А. Чыстабаеў | 30 |

**СПРАВАЗДАЧА ад Р. Шайпака з Аўстраліі:**

| | |
|---|---|
| Лашук | аўстр. дал. 80 |
| В. і Р. Шайпак | 80 |
| З. Кадняк | 55 |
| Л. Яцкевіч | 55 |
| В. Каралюк | 50 |
| Ж. Сідлярэвіч | 50 |
| А. Груша | 25 |
| Яўневіч | 25 |
| М. Кажан | 10 |

**У памяць Зоры Кіпель**

| | |
|---|---|
| В. Канарчук | 50 |

**Усім шчыры дзякуй!**


**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
**Выдае штомесячна:**
**БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІН-Е**
**Падпіска $30 на год.**
**Чэкі выпісвайце на BIELARUS**

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
**Published monthly by**
**BELARUSAN AMERICAN ASS'N, Inc.**
**Subscription $30 yearly**
**Make checks payable to BIELARUS**

**Рэдагуе калегія.**
*Адказны рэдактар*
**Марат Клакоцкі**
*Падпіска*
**Сяргей Трыгубовіч**

*Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.*

***Перадрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.***





**Адрас для допісаў і кантактаў:**
BIELARUS
P.O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735
**E-mail:**
hazetabielarus@att.net
**Сусьветнае сеціва:**
www.bielarus.org


***Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.***